Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
## Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 50 (4850) 18 снежня 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Уладзіміра Шаінскага з 90-гадовым юбілеем. «Ваша творчасць нязменна карыстаецца папулярнасцю ў шырокай аўдыторыі. Многія пакаленні слухачоў выраслі на Вашых песнях, бо яны выхоўваюць лепшыя чалавечыя якасці, вучаць любіць жыццё і цаніць тое лепшае, што ёсць у свеце. У Беларусі добра ведаюць творы Уладзіміра Шаінскага, якія заслужана ўвайшлі ў скарбніцу савецкага і расійскага музычнага мастацтва», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ На нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» вядзецца работа па лічбавай апрацоўцы стужак, знятых у мінулым. У ліку пераведзеных у новы фармат — дакументальная карціна «У вайны не жаночы твар» па сцэнарыі Святланы Алексіевіч, знятая ў 1981 годзе рэжысёрам Віктарам Дашуком. Па запытах кінатэатраў і тэлеканалаў кінастужка можа быць прадстаўлена на экранах.

✔ У Цэнтры рускай культуры ў Таліне адкрылася выстаўка работ вядомага беларускага мастака Аляксея Кузьміча. Была прэзентавана і кніга «Аляксей Кузьміч. Творца ўзнёслых Мадоннаў», якая распавядае пра жыццё і творчасць майстра. Выстаўка арганізавана пры садзейнічанні Пасольства Рэспублікі Беларусь у Эстонскай Рэспубліцы. Куратарам праекта выступіў сын мастака — Аляксей Кузьміч-малодшы.

✔ Вечар беларускага дакументальнага кіно ўпершыню адбыўся ў Каіры. Егіпецкія гледачы ўбачылі фільм «Легенды Нясвіжскага замка», створаны ў студыі спецыяльных праектаў «Беларускі відэацэнтр» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм». Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Арабскай Рэспубліцы Егіпет Сяргей Рачкоў падкрэсліў значны творчы патэнцыял айчыннага кінематографа, у тым ліку і дакументальнага.

✔ Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы «Брыціш Амерыкан Табака» ў Беларусі запрашае 27 снежня на святочны вечар «Навагодні джаз у Мастацкім». Напярэдадні Новага года і Каляд музей падрыхтаваў незвычайны праект: у Белай зале ў асяроддзі карцін можна будзе нацешыцца любімай музыкай. Выступленне маладога калектыву — групы «Акустычная левітацыя» асабліва знамянальна — на гэтай пазітыўнай ноце завершыцца Год моладзі ў Беларусі.

✔ Навагоднюю прэм'еру Гродзенскага абласнога тэатра лялек — спектакль «Казка пра бедную сіротку Марушку і дванаццаць месяцаў» — першымі ўбачылі выхаванцы некалькіх дзіцячых дамоў. Казку паставіў галоўны рэжысёр тэатра Алег Жугжда.

ISSN 0024-4686



# Трыумф сапрана

## Канцэнтрацыя майстэрства, ці Час адкрыццяў у Вялікім

**Калі сцэны з дзевяці легендарных опер змешваюцца ў адну пачуццёвую феерыю, перастаеш чуць шоргаты і балбатню на суседніх крэслах, забываеш пра час і паўсядзённыя справы, цалкам захапляючыся напружанай, пластычнай, гарачай магіяй вакалу і музыкі. Катарсіс? Сапраўдны! Той, хто лічыць оперу складаным мастацтвам, не мае рацыю. Яе лёгка зразумець, галоўнае — улавіць хвалю энергіі, якая з неймавернай сілай зыходзіць ад артыстаў, адкрыцца і даверыцца ім свае зрок, слых і... сэрца. II Мінскі міжнародны Калядны конкурс вакалістаў завяршыўся 15 снежня на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь гала-канцэртам фіналістаў пад дэвізам «Новыя галасы сусветнай оперы».**



*Надзея Паўлава прымае віншаванні з перамогай ад старшыні журы Уладзіміра Грыдзюшкі.*

Гран-пры Мінскага міжнароднага Каляднага конкурсу вакалістаў (10 тысяч долараў), а таксама «Прыз глядацкіх сімпатый» атрымала Надзея Паўлава з Расіі, выканаўшы разам з народным артыстам Беларусі Уладзімірам Пятровым сцэну і дуэт Віялеты і Жэрмона з оперы «Травіята».

Упэўненая чысціня голасу, уменне віртуозна вар'іраваць яго сілу, плаўна пераходзячы ад высокіх актаў да нізкіх, быццам перабіраючы струны нейкай незямной гітары, — усё гэта пра Надзею Паўлаву. Сцэна, якую яна выканала разам з беларускім артыстам, уразіла не толькі глыбінёй вакалу, а яшчэ і пластычнасцю: артысты спрытна, грацыёзна, нібы ў танцы, перамяшчаліся па сцэне, перадаючы ў простых рухах неверагодную напружанасць моманту.

Лаўрэатам 1-й прэміі конкурсу, уладальнікам «Прыза глядацкіх сімпатый» стаў Міхаіл Малафій з Украіны, які прадставіў на суд журы дуэт Мімі і Рудольфа з оперы «Багема» на пару з заслужанай артысткай Беларусі Анастасіяй Масквіной.

Беларус Віктар Мендзялеў заваяваў тытул лаўрэата 2-й прэміі конкурсу, а таксама спецыяльны прыз журы. Яго візітнай карткай на «хіт-парадзе» оперных талентаў стаў дуэт Лізы і Германа з «Пікавай дамы», выкананы разам з артысткамі Таццянай Гаўрылавай і Марынай Аксянцовай.

Чытайце на стар. 2 ▶

# «Ка мне, у лес над Дняпром…»



Фота Наталі Кунрэвіч.

*Помнік Янку Купалу ў Ляўках.*

**Мала хто ўлетку хоча заставацца ў горадзе. Не выключэнне — народныя паэты. Прыкладам, Янка Купала правёў лета 1935 года ў маляўнічым месцы на беразе Дняпра — у Ляўках. Праз дзесяць гадоў ціхія, незаўважныя Ляўкі ператворацца ў мемарыяльны запаведнік. А яшчэ праз семдзесят тут збяруцца пісьменнікі, музейныя дзеячы, замежныя госці і прадстаўнікі ўлад — на адкрыцці новай літаратурна-дакументальнай экспазіцыі.**

Так, 15 снежня сядзіба колішняга Копыскага лясніцтва ператварылася ў галоўны культурны аб'ект Беларусі. Адкрылі новую экспазіцыю, перарэзаўшы чырвоную стужку, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Чэрнік і дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч.

Перад гэтым, вядома ж, прайшла ўрачыста-святочная частка. Віншавальнае слова бралі не толькі «дзяржаўныя людзі», але і пісьменнікі — Віктар Шніп і Навум Гальпяровіч. Таксама ўдзельнічалі ў купалаўскіх урачыстасцях — ужо традыцыйна — артысты Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Асобна варта адзначыць выступы спявачкі Анастасіі Храпіцкай. Купалавы «Спадчына» і «Малітва» ў яе выкананні гучалі асабліва ў Ляўках — месцы, дзе паэту працавалася надзвычай добра (звернем увагу і на тое, што ўрачыстая частка адбывалася пад адкрытым небам, на холадзе).

Чытайце на стар. 8 ▶

## Дайджэст

• Новая знаходка ў літаратурным свеце: на Таганцы ў грымёрцы Уладзіміра Высоцкага знайшлі яго невядомы верш. Рукапіс знаходзіўся на дне шуфляды грымёрнага століка. Аднак экспертыза, якая б пацвердзіла прыналежнасць верша менавіта Высоцкаму, пакуль не праводзілася.

• Да 400-гадовага юбілею Уільяма Шэкспіра англічане рыхтуюцца ўжо цяпер. Брытанская карпарацыя «Бі-бі-сі» падпісала дамову з пісьменнікам Бэнам Элтанам на пастаноўку камедыі пра жыццё драматурга. Чакаецца вялікі поспех праекта, бо тэмы, якія закранаў Шэкспір, актуальныя заўсёды. Акрамя камедыі, плануецца паставіць рок-н-рольную оперу пра драматурга.

• Аб'яўлены VII сезон штогадовага конкурсу «Новая дзіцячая кніга». Конкурс праводзіцца ў Расіі, і ўдзел могуць браць рускамоўныя аўтары з усяго свету. Пераможцы вызначаюцца ў намінацыях «Пазакласныя гісторыі», «Свет фэнтэзі» і «Родная прырода». Ацэньваць работы будуць вядомыя пісьменнікі, драматургі і супрацоўнікі выдавецтва «РОСМЭН». Пераможцаў чакае кантракт з выдавецтвам.

• Швейцарскі пісьменнік і колішні сябар Чарлі Чапліна П'ер Смолік выдаў кнігу пра незавершаны фільм славутага коміка «*The Freak*». Чаплін хацеў распавесці ў гэтай стужцы трагічную гісторыю анёла, які патрапіў у свет людзей. Галоўную ролю ў ім мусіла іграць дачка Чапліна Вікторыя. Сцэнар фільма перадаў П'еру Смоліку сын акцёра Майкл. Аўтар падрабязна апісвае няспраўджаны праект, літаральна дае справаздачу па ім. Для гэтага ён даследаваў архівы Чапліна, у тым ліку — яго асабістыя нататкі, розныя варыянты сцэнарыя, надаў шмат увагі дыялогам героя. Асноўнай прычынай, па якой фільм так і не быў зняты, называюць узрост Чарлі Чапліна: яму было ўжо 80, калі ствараўся сцэнарый.

• На знак завяршэння Года літаратуры ў Расіі, у доме Пашкова ў Маскве, прайшоў бал літаратурных герояў. Удзельнікі яго ператвароліся ў персанажаў кніг дарэвалюцыйнай Расіі ў стылі рамана «Вайна і мір» Льва Талстога. Падчас свята прайшлі дэфіле бальных строяў і сустрэчы з пісьменнікамі, а таксама — узнагароджанне лаўрэатаў гісторыка-літаратурнай прэміі «Кліо». Галоўны прыз атрымаў Данііл Гранін, чый раман «Мой лейтэнант» журы палічыла лепшым. Прэмія пераможцы склала 500 тысяч рублёў. Таксама лаўрэатамі сталі Тацццяна Усцінава (за кнігу «Сто гадоў шляху») і Уладзімір Бутрамееў (серыя кніг «Дзіцячы Плутарх. Вялікія і знакамітыя»). Яны атрымалі прэміі ў памеры 200 тысяч рублёў.

• Тым часам наступны год у суседняй краіне аб'яўлены годам Мікалая Карамзіна. 12 снежня споўнілася 250 гадоў з дня нараджэння гэтага пісьменніка і гісторыка. Адной з асноўных пляцовак святкавання стане Ульянаўская вобласць, радзіма Карамзіна, а галоўнай падзеяй — Усерасійская Карамзінская асамблея. Падчас яе пройдуць Міжнародны гуманітарны форум «Карамзін. Гісторык. Мысляр. Патрыёт», навукова-практычная канферэнцыя «Карамзінскія чытанні», публічныя лекцыі вядомых гісторыкаў і філосафаў, прэзентацыя анталогіі «Паэтычны вянок Карамзіну». Яшчэ адзін літаратурны герой наступнага года — Осіп Мандэльштам. У гонар яго пройдзе міні-фестываль у Варонежы, а таксама два-тры фестывалі па краіне. Аднак гэта, па словах арганізатараў, залежыць ад федэральнага фінансавання.

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Трыумф сапрана

Яшчэ адна жыхарка Расіі, Алена Сціхіна, заслужыла званне лаўрэата 3-й прэміі. Разам з народным артыстам Беларусі Сяргеем Франкоўскім яны паказалі дуэт Тоскі і Кавaрадосі з оперы «Тоска».

Дарэчы, гэты выступ быў адным з самых моцных па эмацыянальным напале і вакальным майстэрстве — зал не хаваў захаплення!

Гала-канцэрт праходзіў у незвычайным фармаце: артыстам дапамагалі вядучыя салісты Вялікага тэатра Беларусі, а акампанаваў сімфанічны аркестр. Цікава, што амаль усе партыі ўяўлялі сабой рамантычныя дуэты з пэўнай доляй трагізму. Праграма прадугледжвала выкананне адной з галоўных партый у сцэнах з опер па выбары ўдзельнікаў — таму за адзін вечар можна было атрымаць асалоду ад атмасферы «Травіяты», «Тоскі» і «Рыгалета», пачуць фінальную сцэну з «Яўгенія Анегіна», пераасэнсаваць трагічнасць «Пікавай дамы» і «Снягуркі», захапіцца абаяннем «Севільскага цырульніка», «Багемы» і «Балю-маскараду».

Спачатку за ўзнагароды пераможцаў спаборнічалі прадстаўнікі ажно з 18 краін. У фінале з амаль 170-ці заяўленых выканаўцаў засталіся толькі дзесяць. Маладыя таленты прыехалі ў Мінск як з дзяржаў былога СССР (Расіі, Украіны, Казахстана, Узбекістана, Грузіі, Малдовы, Латвіі), так і з Францыі, Іспаніі, Германіі, Венгрыі, Балгарыі. Не абышлі ўвагай конкурс і



Фота БелТА.

*Урывак са спектакля «Травіята».*

спевакі з больш далёкіх куткоў зямнога шара — Кітая, Манголіі, Канады, Аўстрыі і Мексікі.

Удзельнікаў ацэньвала міжнароднае журы, у склад якога ўвайшлі дырэктары і мастацкія кіраўнікі тэатраў, музычных фестываляў, міжнародных артыстычных агенцтваў, заслужаныя артысты, галоўныя дырыжоры і хормайстры. Старшыня журы — генеральны дырэктар Вялікага тэатра Беларусі Уладзімір Грыдзюшка. Нарада, на якой павінны былі вызначыць пераможцу, на гэты раз зацягнулася. Нядзіўна, бо ўсе вакалісты, якія выступілі ў фінале, паказалі сябе сапраўднымі прафесіяналамі.

Дэбюты на мінскай опернай сцэне дазволілі маладым выканаўцам паказаць свае таленты, ацаніць творчы ўзровень у параўнанні з артыстамі іншых краін, абмяняцца вопытам, падняць майстэрства на новы ўзровень і, нарэшце, закласці падмурак для новага вітка ў кар'еры. Спадчына вялікіх музыкаў і вакалістаў мінулага, якая гучыць з вуснаў нашага пакалення, — знак таго, што класіка ніколі не страціць актуальнасці. Вялікі тэатр і далей будзе адкрываць новыя імёны, а конкурс вакалістаў стане традыцыйным. Між іншым, ён праходзіў у рамках другога, не менш значнага, культурнага праекта Вялікага тэатра — Мінскага міжнароднага Каляднага опернага форуму, які, адкрыўшыся 16 снежня, будзе доўжыцца да 20 снежня. Гледачы ўжо ацанілі «Царскую нявесту» ў пастаноўцы галоўнага рэжысёра тэатра Міхаіла Панджавідзэ, «Яўгенія Анегіна» ў выкананні салістаў Вялікага тэатра Расіі. Сёння вечарам адбудзецца канцэрт маладых выканаўцаў *La Canzone Italiana*, заўтра, 19 снежня, можна будзе пабачыць «Кармэн» Жоржа Бізэ, а напрыканцы — апынуцца на яшчэ адным грандыёзным гала-канцэрце, як абяцаюць, — зорак сусветнай велічыні.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Адвечнае

## Спектакль як пропуск у «закуліссе»

Пагутарыць з артыстамі, задаць пытанні можна было пасля спектакля «Адвечная песня» паводле Янкі Купалы ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Іграюць у ім, між іншым, зоркі. Напрыклад, выканаўца галоўнай ролі Ігар Сігоў — адзін з самых запатрабаваных беларускіх артыстаў сёння і ў кіно, які, між іншым, прайшоўся па чырвонай дарожцы «Оскара». Але ў гэтым спектаклі ў яго асаблівая роля: словы Купалы гучаць пад музыку, іх трэба спяваць. Гэтая пастаноўка Сяргея Кавальчыка вярнулася на сцэну тэатра на пачатку года. Музычны спектакль, дзе герой, беларускі мужык, пражывае розныя поры года (як розныя этапы жыцця), кранае і ўспрымаецца вельмі сучасна за кошт таго, што ёсць у ім пытанне, якое адрасаванае нам.

Наогул, уся творчасць Купалы — гэта сукупнасць пытанняў, адказы на якія дазваляюць народу асэнсаваць сябе нацыяй. Таму ўвесь год тэатр, у якім ідзе гэты спектакль, ладзіў сумесныя акцыі разам з Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы. Ад свята Купалля, праведзенага разам, да выставак і конкурсаў на лепшага чытальніка вершаў паэта. А вось што сапраўды адметна: ёсць нераўнадушныя гледачы, якія сочаць і не забываюцца пра сваё адвечнае.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

## Імпрэзы

# «Анёлы» ад «Купідона»

На факультэце маркетынгу, менеджменту і прадпрымальніцтва Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта адбылася сустрэча з бардам, лаўрэатам літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» Дзмітрыем Пятровічам.

Госць прэзентаваў свае новыя кнігі: паэтычны зборнік «Адзіноты пажоўклыя дні» і зборнік прозы «Анёлы», куды ўвайшлі апавяданні, эсэ, якія раней былі апублікаваны і атрымалі станоўчую ацэнку з боку літаратурных крытыкаў і чытачоў, а таксама новыя творы пісьменніка. Містычна-прыгодніцкая аповесць «Белая Жанчына» напісана на зусім новым для беларускай прозы матэрыяле — пра спелеолагаў, людзей, якія захапляюцца даследаваннем пячор. У аснову дэтэктыўнай аповесці «Джэк» і апавядання «Анёлы» пакладзены рэальныя падзеі. Апавяданне «Цана крыві» прысвечана памяці ахвяр трагедыі ў сталічным метро 11 красавіка 2011 года.

Дзмітрый Леанідавіч выступаў у БНТУ не ў першы раз. Мэта яго сустрэч са студэнтамі — прапагандаваць беларускую кнігу, а заадно і даведвацца, чым сёння жыве моладзь. На думку пісьменніка, у павышэнні самасвядомасці нашага народа, асабліва маладога пакалення, ёсць вялікая неабходнасць: менавіта ад апошняга залежыць будучыня.

— Кожны з нас кроўна звязаны з Радзімай. Нацыі няма як нацыі без роднай мовы, — падкрэсліў творца. І гэта сапраўды так, бо родная мова — спадчына нашых продкаў і, дай бог, будучыня нашых нашчадкаў.

**Марына ГРАМІНА,**
**Людміла ГОЛАД**

# Уводны тон

## У Гомеля з'явіўся свой музычны форум

Жыццё ў горадзе віруе тады, калі ў ім ёсць неабыякавыя таленавітыя асобы. Малады музыкант, лаўрэат міжнародных конкурсаў, галоўны дырыжор Гомельскага сімфанічнага аркестра Мурад Асуіл вылучыў ідэю правесці ў горадзе Форум класічнай музыкі. Мала таго — зрабіў усё для таго, каб яна ажыццявілася. Гэты тыдзень гістарычны: адбыўся першы музычны фестываль у Гомелі.

Гэта, відаць, лёс. Нездарма ўдзельнікі форуму натхняліся музыкай кампазітара, які здолеў перадаць гучанне тэмы лёсу, — Людвіга ван Бетховена. Музыка, у якой вялікая энергія, — для энергічных.

Фестываль прайшоў на некалькіх пляцоўках, каб абазначыць культурныя кропкі, якія прыцягваюць людзей. У канцэртнай зале Каледжа мастацтваў імя Сакалоўскага ў канцэрце адкрыцця «Бетховен. Лініі лёсу» бралі ўдзел маладыя піяністы, але ўжо лаўрэаты міжнародных конкурсаў Андрэй Калаткоў і Таццяна Кім. І сам Мурад Асуіл прадэманстраваў майстэрства піяніста ўжо ў другі вечар, калі ў выкананні тэнара Янаша Нялепы гучалі вакальныя творы, напрыклад, цудоўная «*Ave Maria*» Шуберта. Так, былі кампазітары, на якіх паўплываў Бетховен, яго паслядоўнікі. З праграмай «Эпоха Бетховена» ў Гомелі ўпершыню выступіў духавы квінтэт «*Woodwind friends*» (мастацкі кіраўнік Максім Расохі). Тэму творчых паслядоўнікаў Бетховена прадоўжылі камерным канцэртам у Белай гасцёўні палаца Румянцавых і Паскевічаў. І тут сябе паказалі маладыя зоркі выканальніцкага мастацтва віяланчэліст Міхаіл Радунскі і альтыстка Аляксандра Іванова, а таксама мастацкі кіраўнік фестывалю. Зразумела, што пры такім кіраўніку немагчыма без асобнага фартэпіяннага вечара. Гучалі санаты Бетховена. Галоўнай зоркай быў народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў. Але колькі ў нас цудоўных піяністаў, якія ўжо з'яўляюцца лаўрэатамі міжнародных конкурсаў!.. Ёсць музыканты-віртуозы, якія іграюць на іншых інструментах. Учора ўвечары на закрыцці ў Гомельскім абласным драматычным тэатры гучала сола ад скрыпача Алега Яцыны. Пятая сімфонія, раманс для скрыпкі. І нават стварылі вонкавы вобраз твораў праз харэаграфію ў выкананні навучэнцаў Дзіцячай харэаграфічнай школы Гомеля пад кіраўніцтвам Пятра Свярдлова. Эксперымент ад маладых: танцавальныя нумары пад Бетховена, здаецца, ўпершыню паказалі ў Беларусі.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Як гучыць Палессе?

**Новы поўнафарматны альбом «Лекавыя травы» прэзентаваў гурт *Re1ikt* на вялікім канцэрце, які прайшоў у сталічным клубе *Re: public.***

*Re1ikt* ужо досыць даўно палюбіўся публіцы і знайшоў свайго адданага слухача не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. Але, думаецца, з выхадам «Лекавых траў» аўдыторыя калектыву значна павялічылася: звыклае пост-рокавае і збольшага меланхалічнае, медытатыўнае гучанне каманды тут змянілася ў лепшы бок. Кампазіцыі сталі больш разнастайнымі, а гук — густым. Так, у альбоме гурт прадставіў некалькі ўласных інтэрпрэтацый народных песень — «Хадзіла галота», «Чаго ты, Лося», папрацаваў з беларускай літаратурнай класікай і ва ўласных творах паразважаў над тэмамі прыгажосці, загадкавасці прыроды, гаючых уласцівасцей «зёлак ды карэнняў».

Цікава, што ў песню ператварылася адна з «Казак жыцця» Якуба Коласа «Балотны агонь». Алегарычная гісторыя пра тое, як стары вяз пасмяяўся з маладзенькай бярозкі, бо яна захапілася святлом балотных гнілушак і ўспрыняла яго як чароўны агонь, інтэрпрэтаваная гуртом у песню «Балотныя агні». Яна распавядае, як важна верыць у мару, імкнуцца да прыгожага і ўзвышанага і, нягледзячы на меркаванні іншых людзей, ісці ўласным шляхам. Настаўнікі беларускай літаратуры, звярніце ўвагу! Менавіта гэтая коласаўская казка вывучаецца на ўроках, а параўнанне твора з песняй — выдатнае творчае заданне. Такім жа чынам можна папрацаваць і з песняй гурта *Re1ikt* «Кабета інсекта». Пазналі? Гэта ж інтэрпрэтацыя твора «Драўляны Дзядок і кабета інсекта» Яна Баршчэўскага.




Думаецца, літаратурныя творы, блізкія да фальклору, абраны гуртом невыпадкова. Увесь альбом «Лекавыя травы» распавядае пра важнасць стасункаў чалавека і прыроды, уменне чэрпаць сілы і натхненне не толькі з адвараў чароўных лекавых зёлак, але і прыгожых краявідаў, мацавацца адчуваннем блізкасці да каранёў. Цудоўнае можна заўважыць і ў звычайнай «Яшчарцы», і ў простай кветцы «Люцэрны» (дарэчы, у маім асабістым рэйтынгу гэтая песня — на першым месцы: яна проста зачароўвае мелодыяй, голасам выканаўцы).

Падчас канцэрта ў клубе *Re: public* «Лекавыя травы» альбом, які ўжо некалькі месяцаў можна паслухаць у інтэрнэце, упершыню прагучаў у жывым выкананні. Думаецца, музыкі хваляваліся, але атрымалася проста выдатнае шоу з досыць добрым гучаннем і дарэчнай, густоўнай сцэнаграфіяй.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*За падзеяй*

# Таямнічасць незалежнага кіно

Дзень беларускага кіно адзначыцца паказамі фільмаў — пераможцаў Нацыянальнага конкурсу XXII Мінскага міжнароднага кінафестываля «Лістапад». У кінатэатры «Перамога» пакажуць ігравую стужку «Беларускі псіхапат» Мікіты Лаўрэцкага, дакументальны фільм «Госці» Андрэя Куцілы і анімацыйнае тварэнне «Пра вала» Яўгена Надтачэя.

Беларускі незалежны кінематограф, нягледзячы на ўсе прадузятасці і заслону некаторай таямнічасці, кожны год рухаецца наперад. На гэты раз для ўдзелу ў Нацыянальным конкурсе камісія адабрала 8 дакументальных, 11 анімацыйных і 15 ігравых стужак — 34 карціны з больш як 100 заявак (для параўнання: у мінулым годзе было ўсяго 6 ігравых карцін, сярод якіх так і не змаглі выбраць пераможцу, а таксама 10 дакументальных і 7 анімацыйных фільмаў).

«Беларускі псіхапат» Мікіты Лаўрэцкага, па словах арганізатараў паказу, — нечаканая гісторыя, знятая практычна без грошай непрафесійным рэжысёрам, з'яўленне якога ў беларускім кіно выклікае ў роўнай прапорцыі захапленне і скепсіс як у гледачоў, так і ў крытыкаў.

Андрэй Куціла таксама ўваходзіць у шэраг маладых аўтараў, але ўжо мае імя ў дакументалістыцы нашай краіны. Рэжысёр не раз станавіўся лаўрэатам міжнародных кінафестываляў. Яго новы фільм — гэта гісторыя чалавека, які бачыў сэнс свайго жыцця ў дапамозе іншым людзям, тым самым мяняючы ўласны лёс.

Павучальны мультфільм «Пра вала» Яўгена Надтачэя — увасабленне на экране нацыянальнай казкі, якую многія памятаюць пад назвай «Ад крадзенага не пасыцееш». Цікавыя візуальныя знаходкі і актуальная мараль вызначылі анімацыйную ленту сярод іншых.

Дарэчы, 17 снежня афіцыйна прызналі Днём беларускага кіно ў 1994 годзе. Але гісторыя пачалася яшчэ ў 20-я гады, калі ў новастворанай краіне саветаў адкрылі кіраванне «Белдзяржкіно», пазней пераўтваранае ў кінастудыю «Беларусьфільм».

**Марыя ВОЙЦІК**

*Зваротная сувязь*

# Да вытокаў творчай ракі

**Супрацоўнікаў рэдакцыі часопіса «Нёман» з чытачамі віталі на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Адметна, што большасць «нёманцаў» — былыя выпускнікі менавіта філфака.**

Намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом “Звязда”» — галоўны рэдактар «Нёмана» Аляксей Чарота акрэсліў пройдзены часопісам 70-гадовы шлях. Намеснік галоўнага рэдактара «Нёмана» Уладзімір Мазго адзначыў, што стартавай пляцоўкай для многіх беларускіх пісьменнікаў было ўніверсітэцкае літаб'яднанне «Узлёт». Таксама ён прачытаў вершы, напісаныя ў студэнцкія гады. Рэдактары аддзелаў прозы, паэзіі і крытыкі, замежнай літаратуры Алег Ждан, Наталля Казапалянская і Анатоль Казлоў распавялі пра аўтараў ды творы, што друкаваліся ў апошні час у «Нёмане».

Студэнты-філолагі, а таксама іх выкладчыкі Таццяна Шамякіна, Людміла Сінькова, Лада Алейнік, Міхась Кенька, Анатоль Верабей, Уладзімір Навумовіч і іншыя праявілі асаблівую цікавасць да часопіса-юбіляра.

Прафесар Таццяна Шамякіна павіншавала «нёманцаў» з высокім юбілеем і выказала думку, што падобныя сустрэчы павінны быць карыснымі як для студэнтаў, так і для супрацоўнікаў часопіса.

**Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ**

# На хвалі гумарыстычнай

Вечарына пісьменніка Міхася Слівы адбылася ў Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. Герцэна.

Рагачоўскі літаратар выдаў шмат кніг сатыры і гумару, пастаянна публікуецца на старонках айчынных часопісаў і газет. Асабліва моцна сябруе Міхась Мітрафанавіч з часопісам «Вожык», дзе надрукаваўся ўпершыню больш як 40 гадоў таму — яшчэ студэнтам БДУ.

Вядомы Міхась Сліва і як аўтар публіцыстычных кніг ды літаратуразнаўчых артыкулаў. На вечарыне пра творчасць рагачоўца гаварылі старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч, пісьменнікі Васіль Ткачоў, Барыс Кавалерчык, Алесь Атрушкевіч і Тамара Кручэнка.

Падчас імпрэзы Міхась Сліва прачытаў свае лепшыя гумарыстычныя творы, падзяліўся творчымі планамі.

**Ігар ДАНІЛАЎ**

# Саюз мелодыі ды тэксту

Творчая сустрэча з маладымі айчыннымі паэтамі і перакладчыкамі, членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі Рагнедам Малахоўскім і Аксанай Ярашонак адбылася ў Маладзечанскім музычным каледжы імя М. К. Агінскага.

Падчас імпрэзы, падрыхтаванай выкладчыкамі каледжа Аленай Біруковай ды Інай Русак, госці чыталі ўласныя вершы на розныя тэмы, расказвалі пра сябе і свае захапленні, адказвалі на пытанні гледачоў. Літаратары прызналіся ў цёплых пачуццях да Маладзечна: для Аксаны гэта малая радзіма, а для Рагнеда — мясціны, звязаныя з яго першым каханнем і выступленнямі ў Маладзечанскім палацы культуры.

Гледачы-студэнты, таксама людзі творчыя, парадавалі гасцей сюрпрызамі: імпрэза была аздоблена музыкай у выкананні духавога квартэта, а студэнты харавога аддзялення выканалі песні на вершы Аксаны Ярашонак і Рагнеда Малахоўскага. Адным словам, сустрэча прайшла ў мажорным ладзе і падарыла гасцям, гледачам і арганізатарам шмат станоўчых эмоцый.

**Аксана КАМІНСКАЯ**

# «КЛУмБА» для Караткевіча

Студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, аб'яднаныя Фундаментальнай бібліятэкай і Саюзам жанчын БДУ, сабраліся разам, каб ушанаваць памяць класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча. Адкрыты мікрафон «Прачытай Караткевіча з намі!», прысвечаны 85-годдзю з дня нараджэння пісьменніка, прайшоў у зале інфармацыйных рэсурсаў па навуцы і мастацтве і доўжыўся тры гадзіны. За гэты час студэнты гістарычнага, філалагічнага, эканамічнага факультэтаў, інстытута журналістыкі дэкламавалі вершы У. Караткевіча, чыталі ўрыўкі прозы, спявалі песні на яго вершы.

Удзельнікі клуба аматараў мастацкага слова «КЛУмБа» інсцэніравалі ўрывак знакамітай аповесці пісьменніка «Дзікае паляванне караля Стаха», а таксама прачыталі свае прысвячэнні юбіляру. Студэнт факультэта філасофіі і сацыяльных навук Дзмітрый Корзунаў прачытаў свой пераклад верша У. Караткевіча на персідскую мову. Перад удзельнікамі свята выступілі літаратуразнаўца А. Верабей, пісьменнікі М. Пазнякоў і А. Зэкаў. Яны ж былі літаратурнымі экспертамі: вызначалі самае адметнае чытанне твораў класіка.

**Аліна КАРПІЦКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**18 снежня** *— у Мемарыяльную залу Дома літаратара (вул. Фрунзэ, 5, 2-гі паверх) на творчыя сустрэчы з групай пісьменнікаў сталічнага аддзялення. Пачатак а 9-й і а 11-й гадзіне.*

**21 снежня** *— у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, д. 5, каб. 309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**22 снежня** *— у Школу юнага празаіка пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, д. 5, каб. 310). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**23 снежня** *— у клуб творчых жанчын «Спадарыня» пры Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (пр. Незалежнасці, 66 А) на творчую сустрэчу з паэтэсай Нінай Галіноўскай. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**23 студзеня** *— у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» пры сталічным інтэрнаце № 8 (вул. Карбышава, 42) на творчае свята «Паэтычныя пакаленні» з удзелам членаў СПБ Алы Чорнай і Адама Шостака. Пачатак а 16-й гадзіне.*

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці вядомага празаіка, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Алеся Андрэевіча ШАШКОВА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

# Зняць капялюшык прад нябёсамі…



Таісія ТРАФІМАВА (ЯНУЧОК)

***

*Зняць капялюшык прад нябёсамі —*
*За сонцаграй!..*
*З дажджом павенчаную, босую*
*Не забывай!..*

*Дурманіць водарам чаромхавым*
*Бялюткі рай.*
*Душа чысцее, як на Сёмуху,*
*Вітае май.*

*Скірую ў белую царквушачку,*
*У чысты Храм.*
*Душу — палоненую птушачку —*
*Адкрыю там.*

*Мо перад Богам вінаватая —*
*Што ні кажы, —*
*Стаю, нібы сама распятая,*
*Я на крыжы.*

*Гляджу ягняткам ці авечачкай.*
*Як Божы дар,*
*Гарыць мая, палае свечачка,*
*Святлее твар.*

*І ад маёй малітвы шчырае*
*Сціхае боль.*
*Ізноў душа зайграе ліраю*
*За нас з табой…*

***

Белавежскай пушчы

*Як спрадвечную кнігу чытаю,*
*Нібы казку з глыбінь вякоў,*
*Белай Вежы старонкі гартаю*
*І зачытваюся ізноў.*

*І гамоніць, і кліча шчыра*
*Неабсяжны пушчанскі край…*
*Белай птушкаю, нібы ў вырай,*
*Светлай думкаю прылятай.*

*І лячу я на крылах вольных*
*Трапяткіх і жывых надзей,*
*Госцяй званай, не выпадковай,*
*Млечным шляхам тваіх падзей…*

## Адпусці, Бог…

*И только Божья благодать спасёт*
*мятущиеся души…*
***Священное Писание***

*Спакваля жыццё завіравала,*
*Мне імгненна крылы абарвала.*
*Не смяюся болей, не спяваю,*
*Быццам не жыву,*
*Бо не ўзлятаю.*

*Як жа да жыцця мне падключыцца,*
*На якім я свеце не забыцца,*
*Зноў патрапіць на сваю дарогу, —*
*Пэўна, я здаю экзамен Богу.*
*І плачу за шчырасць і адкрытасць.*
*Адпусці, Бог, крылы… Маеш літасць…*

*Не падняць без крыл жыццёвай глыбы,*
*Ластаўкай падбітай б'юся ў шыбы.*
*Дай надзею. Адчыні мне вокны, —*
*Ахіну красу прастораў родных,*
*Узнімуся над бацькоўскім краем,*
*І пра шчасце песню заспяваю.*
*Як пачуе спеў мой краю мілы,*
*Ля Тваёй Душы складу я крылы.*
*Адпусці, Бог…*

***

*Я не паэтка,*
*Не з таго раю —*
*Не п'ю з крыніцы,*
*А прыгубляю.*

*Не ўмею грэцца.*
*Самотна, зімна,*
*Хоць шчыра сэрца*
*Складае гімны.*

*Ружовых шкельцаў*
*Збяру без меры…*
*У свет вясновы*
*Змагу паверыць.*
*…Душа, як птушка,*
*Ў грудзях-шпакоўні.*
*І свята верыць*
*У звон царкоўны!*

## Санет

*Памаліся за мяне, сястра, —*
*Для мяне даўно Ты стала мамай.*
*Да Цябе царэспале прымчала б,*
*Хоць між намі не адна вярста.*

*Памаліся за мяне, сястра, —*
*Сёння радасць двор мой абмінула.*
*Нейкае бяссілле ахінула,*
*Не дайсці самой да Алтара.*

*Памаліся за мяне, сястра, —*
*Нешта у маім жыцці не выйшла,*
*А Цябе пачуе Усявышні.*
*Я з Табой, як за Душой Хрыста…*

*Памаліся за мяне, сястра, —*
*Ты спакон заступніца мая!*

## Роздум

*Учись прощать, когда душа обижена,*
*И сердце словно чаша горьких слёз.*
*И кажется, что доброта вся выжжена,*
*Ты вспомни, как прощал Иисус Христос.*
***Барыс Пастарнак***

*Як далёка яшчэ да Бога!*
*Бог не крыўдзіцца ні на кога,*
*А мяне ахінае крыўда.*
*І не бачу я выйсця.*

*Як далёка яшчэ да Бога!*
*І куды прывядуць дарогі.*
*І лашчыцца мне пад ногі*
*Жоўтае лісце…*

***

*Целую кончики Ваших крыльев…*
***Вальтэр***

*А можа й праўда,*
*Покуль крылы ёсць,*
*Пакуль лячу на іх*
*у свет Кахання,*
*Пакуль я сёння*
*У Сусвеце — госць, —*
*Пісаць мне смела,*
*радасна,*
*адчайна!..*

*Я адпускаю свой*
*Мінорны лёс, —*
*Мажорны верш*
*маё палоніць сэрца.*
*Іду ў жыццё,*
*Як па вадзе Хрыстос,*
*Дзе Бог наканаваў*
*з Табой*
*сустрэцца!*

---



Валеры МАКСІМОВІЧ

Сённяшняга аўтара спасцігла вялікае, непапраўнае гора — 15 лістапада гэтага года не стала матулі, самага роднага і блізкага яму чалавека. Вершы, што напісаліся з такой сумнай нагоды, — даніна глыбокай павагі, любові, ушанавання.

## Матулі

*Мая ты родная, мне не хапае слоў,*
*Каб выказаць усю сваю самоту,*
*І жальбу, і пяшчоту, і любоў,*
*І скрушны боль знямоглай адзіноты.*

*Здаецца мне, што неба ўпала ніц*
*І сонца ў вышы чорны дыск хавае…*
*Я ўсё прыпамінаю да драбніц, —*
*Мне так цябе, матуля, не хапае.*

*Як веры даць, што восеньскай парой,*
*Калі няўзнак у лепшы свет пайшла ты,*
*Я стаў раптоўна круглым сіратой*
*І наша апусцела ўмомант хата?*

*І сад, і агарод, і твой кветнік*
*Застылі ў анямелым утрапенні.*
*І разам з імі я душой панік*
*Сярод здранцвелых, нерухомых ценяў.*

*Ніколі не вярнуцца мне назад*
*І не спазнаць ранейшага спакою…*
*Усюды, дзе ні кіну свой пагляд,*
*Стаіць твой воблік, мама, прада мною.*
*І плакаць бы, ды нестае мне слёз, —*
*Цяжар гнятлівы давіць камяніцай.*
*Чаму ж, чаму нялітасцівы лёс*
*Прымусіў прад жыццём цябе скарыцца?*

*Прашу, дай моцы, Божа правы мой,*
*Каб даастатку сэрца мне не зраніць*
*І дараванай ласкаю Тваёй*
*Святую зберагчы пра маці памяць.*

## Памінальная

*Пахмурныя дні — то дажджыць,*
*то заснежыць…*
*У слоце пранізлівай і гаркатной*
*Балючая думка мне сэрца вярэдзіць:*
*Няма ўжо са мною мамы маёй.*

*Асеннім, гнятліва-даўкім адвячоркам*
*Яна адплыла ў векавечным чаўне…*
*Так скрушна, мае дарагія, так горка*
*І так невыносна-тужліва мне.*

*Здаецца, што свет цэлы жальбай*
*працяты —*
*Гучыць развітальны зямны паланэз:*
*Ссамоціўшыся, каля самае хаты*
*Аб чымсьці задумаўся мамін бэз.*

*Засмучаным позіркам —*
*сумна-расстайным —*
*Ўглядаюцца вокны у цемень начы*
*І ўсё заклікаюць матулю адчайна:*
*— Устань, гаспадынька, устань,*
*не маўчы!..*

*І печ азалела-астылая ўмольна*
*І роспачна просіць сагрэцца цяплом…*
*А мама маўчыць — у жытле сваім*
*дольным*
*Заснула яна беспрабудным сном.*

*Зрабі так, Гасподзь міласэрны і моцны,*
*Каб там, дзе спачын свой знайшлі вякі,*
*Маму маю цеплынёю мілоснай*
*Сагрэлі малітвы маёй радкі.*

*Пашлі Ты ёй літасць сваю і збавенне, —*
*Ласкава і шчыра аб тым я прашу, —*
*Хай светлай любові Тваёй праменне*
*Павек асвятляе яе душу.*



Ала ЧОРНАЯ

***

*Мо свята адмяняецца сягоння?*
*На нізкім небе — прадчуванне снегу*
*І, да таго ж, халоднага начлегу*
*З празрыстым сумам ночы навагодняй.*

*Паўвесялосць, і лёгкая журба,*
*І ўсведамленне вечнасці як бегу.*

*Снег заскрыпіць пад крокамі вясёла,*
*Наіўныя, як выдумкі-пушынкі,*
*Аб тым, як нейкі хлопчык і дзяўчынка*
*У Афрыку махнулі без дазволу.*

*Гарачыня трапічная і сёння*
*Зноў нашы лёсы будзіць безупынку.*

*А лісце ўсе засыпала сцяжыны.*
*Даўно пажоўкла — аж да новых вёснаў —*
*І адцяняе зелень вечных соснаў,*
*І нам з табою грэе успаміны.*

*Ды толькі снег, як некалі, скрыпіць,*
*І гэты скрып — да болю невыносны.*

***

*Услед не мкніся за вялікімі,*
*Не давярай людской хвальбе.*
*Манастыроў святымі лікамі*
*За ўсіх маліся і сябе.*

*Калі ты й шмат зрабіў для вечнасці,*
*Не забывай: не ты адзін.*
*Ва ўмовах часу хуткацечнага*
*Што год, што некалькі гадзін.*
*Анёльскі свет і шыр бязмежная,*
*Прашу насуперак журбе:*
*Хвілін зямною непазбежнасцю*
*Мяне набліжце да сябе.*

*Галінку бэзу паўзасохлую*
*Ў руках трымаю, нібы тлен,*
*Святой малітваю прырослая*
*Да вечных манастырскіх сцен.*

***

*Вілейкі выцвілы вакзал.*
*Прапахлы дымам сквер, алейкі.*
*Ва ўсім — гісторыя Вілейкі.*
*Наводдаль пасвіцца каза.*

*Кудысь паўзуць грузавікі,*
*Аўтобус цягнецца дабіты.*
*Клінок занесены развіту*
*Над кожным поціскам рукі.*

*Яшчэ мы побач.*
*Сонца.*
*Людзі.*
*Яшчэ не старацца гады.*
*Мы побач.*
*Дзе мы заўтра будзем,*
*Калі нахлынуць халады?*

***

*Наш вечар на дваіх*
*На подступах зімы —*
*Кахання светлы міг*
*Сярод застылай цьмы.*

*Нібы з былых часоў*
*Найрадасныя сны —*
*Пяшчотна-цёплых слоў*
*Даносяцца званы.*

*А здасца, што гады —*
*Не самы цёплы май,*
*Ты побач будзь заўжды,*
*Паглядам затрымай*

*Кахання светлы міг*
*Сярод застылай цьмы —*
*Наш вечар на дваіх*
*На подступах зімы.*

**Пераклад з рускай мовы**
**Міколы ШАБОВІЧА**

**Цыкл апавяданняў Васіля Ткачова «Доўгае рэха вайны» адзначаны трэцяй прэміяй на літаратурным конкурсе, які праводзіўся сеткавым часопісам «Камертон» (г. Масква) і быў прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі. Два творы з гэтага цыкла прапануем увазе чытача.**

Васіль
ТКАЧОЎ



*Нявыдуманыя апавяданні*

# Свой

Ноччу прайшоў дождж. Хоць і нядоўга ён барабаніў па бляшаным карнізіку акна, аднак гэтага хапіла Івану Сяргеевічу, каб сон канчаткова пакінуў яго. Ды, магчыма, зусім і не дождж вінаваты ў тым, што не спалася. Было, і не раз, што прачынаўся стары сярод ночы і не пад ягоны, дажджу, дроб: старасць, тут нічога не паробіш. Выспаўся, значыць, за сваё доўгае жыццё. І тады ён нерухома ляжаў на спіне, і прыслухоўваўся да чуйнай цішыні, і, было, іншы раз улоўліваў нейкі незразумелы шоргат-грукат на двары. Спярша думаў, што, можа, нехта завітаў на падворак, толькі што яму рабіць тут сярод ночы? Ды і хто гэта можа быць, калі ў Канаве застаўся ён адзін? З суседзяў не прыйдзе больш ніхто ніколі: на пагосце апошнія жыхары вёскі, туды перасяліліся. Іван Сяргеевіч падумаў на ката, але той бесклапотна ляжаў на падаконніку, і ягоны сілуэт добра бачыўся старому — пакрысе пачынала днець, за акном пасвятлела, і кот ляжаў ціхім шэранькім камячком, толькі раз-пораз лянотна шавяліў сваім пушыстым хвосцікам, нібы праціраў шыбу.

Іван Сяргеевіч нарэшце здагадаўся, чаму чуюцца яму на падворку час ад часу і шоргат, і крокі, і грукат: то размаўляе з ім яго старое, таксама зняможанае, жытло. Нічога вечнага няма. Стомлена дыхаюць, разважае стары, і пунька, і тарфянка, і, канечне ж, хата. Зразумелая рэч: бёрны трухнеюць, на іх цісне дах, а тыя не здаюцца, рыпяць-скрыпяць. Відаць, толькі на сваёй мове яны, усе ягоныя пабудкі, па-чалавечы і вохаюць, і ахаюць — калі ім баліць, калі ім нявыкрутна. «Дрэва, хоць яно і не жывое, але таксама хоча жыць», — услых сказаў сам сабе Іван Сяргеевіч і выпаўз з-пад коўдры, спусціў ногі на падлогу. — А хата тая ж? А пуня? Ці яны хіба даўжэй пратрымацца на гэтым свеце не стараюцца? Скажы каму! Усё жыць хоча… нават, мусіць, і саломінка… Такая аказія… Пара, аднак, уставаць».

Ён апрануўся, пагладзіў ката, які ўжо цёрся каля ног гаспадара і радаваўся, што той прачнуўся.

— На двор просішся? Зараз, зараз я табе адчыню.

Выпусціўшы ката, паставіў на газоўку чайнік, набраў у місу пшаніцы — курам. Толькі іх цяпер і трымае — на астатняе не хапае сілы. Калі была жывая Ніна, мелі нават кароўку і парсючка. А ўжо калі жонка занемагла, звялі ўсю жыўнасць. Дзякаваць богу, пенсіі хапае на ежу, а апранацца ёсць у што: данасіць бы. Раней заязджаў сын Сяргей, ён тут паблізу жыве, у Хатоўні, аднак хвароба зусім выбіла чалавека з каляіны. Колькі год таму Сяргей захварэў на цукровы дыябет, адтуль і пайшло — глаўкома, поўная слепата. Цяпер ён на першай групе, трымаецца як можа. Па гаспадарцы рупіцца Надзя, жонка, якая асмелілася здаць і на правы — не стаяць жа пасярод двара легкавіку, якім некалі кіраваў муж. А чалавек ён наогул запатрабаваны ў раёне і нават у вобласці — спевака і баяніста Сяргея Філіпчанку хто не ведае! Нават і цяпер, калі стаў невідушчым, мала якое свята абыходзіцца без яго. Толькі тым, хто добра ведаў Сяргея, крыху ніякавата і балюча бачыць, што яго, бездапаможнага, нехта выводзіць на сцэну…

З дачкой Людмілай Іван Сяргеевіч больш перамаўляецца па тэлефоне, яна далекавата — у Старых Дарогах. Былі ў яго і яшчэ дзеці, два хлопцы-блізнюкі, але яны не пражылі і года.

Стары ступіў на ганак і не здзівіўся, што куры адразу ж выпырхнулі з пунькі, кінуліся да яго на злом галавы. Учора ён позна вярнуўся ў вёску, не меў магчымасці даць тым павячэраць, а голад, як ка-жуць, не цётка: хоць для людзей, хоць для курэй. А чаму позна? На цэнтральнай сядзібе ў Доме культуры калектыў мастацкай самадзейнасці даваў канцэрт, і ён праспяваў там, як заўсёды, дзве песні. Пад акампанемент сына.

— Ну, ну, не збіце з ног! Бач ты — вымерхаліся!..

Пакуль куры дзяўблі, Іван Сяргеевіч узяў касу, паклаў яе на «бабку» і нетаропка, акуратна зацюкаў малаточкам. Учора, ідучы на канцэрт, ён звярнуў да Рашыда, пастаяў над грудком зямлі, пакратаў зорачку. «Трэба заўтра абкасіць магілку».

Цюкае і цюкае Іван Сяргеевіч малаточкам, а сам бачыць дзень, калі ён, тады яшчэ хлапчук, стаяў перад выкапанай ямай. Тая падавалася яму надта глыбокай, і ён вельмі баяўся абшамкнуцца ды ўваліцца ў яе і моўчкі, шморгаючы носам, назіраў, як вяскоўцы хавалі салдата. Нехта з іх узяў у ягонай кішэні дакументы, з якіх даведаліся імя і прозвішча. На ўсё жыццё Івану Сяргеевічу запомнілася імя — Рашыд. Пазней хлапчук знайшоў глобус, а на ім Узбекістан, такі далёкі і загадкавы. Вось, значыць, дзе яна, Рашыдава радзіма. Далёка. Вельмі далёка.

Стары не можа сказаць сёння, куды падзеліся дакументы, але ведае, што не так даўно, мо год дзесяць таму, следапыты напісалі на радзіму Рашыда, адтуль атрымалі неўзабаве адказ: дзякуй, сябры, за памяць пра нашага брата, але, на жаль, прыехаць не можам… Цяпер мы ведаем, дзе ён пахаваны, і верым, што яго магілка будзе дагледжана, бо вы, беларусы, вельмі добры і чулы народ…

Абкасіў магілку Іван Сяргеевіч рана, яшчэ сонца толькі-толькі выкацілася яркім круглячком з-за Журавіцкага бору, прысеў на лавачку, якую сам і змайстраваў некалі, сказаў:

— Свой ты нам, Рашыд. Прабач, мо рэдка да цябе прыхо-джу. Даруй, калі што не так. Я ж бачыў, як цябе забілі немцы… І калі яны з'ехалі з вёскі, нашы людзі цябе адразу пахавалі… Дамавіну зрабілі мужчыны…Усё чын чынам… Хоць Гонтараў, праўда, ці хто там, пярэчыў, што ўзбекаў трэба хаваць не так… у матэрыю загорнутымі быццам… Хе! Але паспрабуй тады расстарайся на тую матэрыю, маць яе! З дошкамі працей было… Самі напілілі… А яе, матэрыю тую, не зробіш у нашай Канаве… Вось толькі аднаго я не магу зразумець: і што гэта за бой такі быў у нашай вёсцы, што ты адзін і загінуў? Не магу, даруй, адказаць на гэтае пытанне і сёння… Ці, можа, я што забыўся? Даруй, браце… Даўно ж было… І яшчэ, братка Рашыд, вось што… Ты, гэта, на сваіх не крыўдуй, што не прыехалі... Час такі… Развалілі краіну, за якую ты ваяваў, мытняў панаставілі, межаў нарабілі… паспрабуй прадзярыся цяпер праз гэтае сіта!.. А каб да цябе прыехаць — ці хапіла б у тваіх сваякоў грошай? Білет цяпер да нас — уго, мабыць, каштуе! Гэта на вайну ў цябе быў ён бясплатны…

Іван Сяргеевіч уздыхнуў, устаў, ускінуў на плячо касу і моўчкі пашоргаў у бок вёскі. Па дарозе, кольکі ішоў, думалася яму пра адно і тое ж: «А хто дагледзіць Рашыдаву магілку, калі мяне не будзе? Хто прыйдзе да яго? Хто? Цяпер вунь да сваіх бацькоў не ўсе дзеці прыходзяць…»

Ён успомніў пра сваіх праўнукаў-шчабятунчыкаў Мікітку і Дзімку, і твар у старога павесялеў.

«Трэба будзе неяк прыйсці з імі да Рашыда», — вырашыў Іван Сяргеевіч і падміргнуў кату, які адзінока стаяў пасярод двара і быў рады, што нарэшце з'явіўся гаспадар.

# Дошкі

На першы погляд і не скажаш, што сяло Мадора знаходзілася ў прыфрантавой паласе. Буйным кветам цвілі сады, і хаты, здавалася, патанулі ў вялікім бела-ружовым букеце. Часам сюды-туды нетаропка хадзілі па вуліцы і вулачках людзі, галоўным чынам старыя і дзеці: вайна пакінула толькі іх, а ўсіх, хто мог трымаць у руках зброю, паклікала пад баявыя сцягі — абараняць Радзіму.

Над усёй гэтай прыгажосцю і цішынёй высілася царква. Яе купалы былі бачныя здалёку, і байцы Крупянка ды Якушэнка па іх здагадаліся: гэта і ёсць тая самая Мадора, куды яны трымаюць шлях. Не памыліліся. Ідуць правільна. Сёння раніцай байцы атрымалі загад зрабіць падлогу ў будынку сельскага савета, дзе будзе размешчаны штаб дывізіёна, прыбыццё якога чакаецца праз двое сутак. З імі павінен быў быць і старшына Гусеў, але ён пакуль затрымліваецца — здабывае дзесьці цвікі, абяцаў да вечара з'явіцца кроў з носу, а байцы павінны былі расстарацца — таксама кроў з носу — дошкамі. Настаўляючы ўсю гэтую троіцу, камандзір узвода лейтэнант Асокін строга папярэдзіў: «Дзе хочаце, там і здабывайце дошкі! У мяне няма! Ясна? А не выканаеце загад — пойдзеце пад трыбунал!»

Будынак сельсавета выштукаваны быў нядаўна, хлопцы гэта адразу вызначылі па бёрнах і аканіцах, і хоць на дзвярах вісеў вялікі свірнавы замок, хтосьці ўмудрыўся ўзарваць падлогу і вынесці праз акно, вядома ж, усе дошкі. Усе да адзінай. Крупянка і Якушэнка, прыпаўшы да шыбак, нейкі час ацэньвалі сітуацыю, а потым вырашылі спытаць у каго-небудзь з мясцовых жыхароў, дзе можа быць ключ ад будынка. Пашанцавала: якраз сам падышоў да іх дзед Шыш. Ён моўчкі пацiснуў байцам пачаргова рукі, а потым з дзелавым выглядам пацікавіўся:

— З якой мэтай, арлы, прыбылі?

А калі атрымаў адказ на сваё пытанне, патлумачыў наконт ключа:

— Ключ быў у Пятра Кавалёва, у старшыні сельсавета, значыць, але ён дзесьці ў лесе — да партызанаў падаўся. А хто скраў дошкі — шукай ветру ў полі. Можа, нашы, можа — суседзі. За ўсімі не ўсочыш. Але дзе возьмеце вы дошак на падлогу — ой, браткі, не ведаю. Пытанне цяжкае. Загад, кажаце?

— Загад, — пераканаўча кіўнуў галавой Крупянка.

— Спачуваю вам, але дапамагчы не магу, — сказаў стары і павярнуўся, каб ісці, але затрымаў хаду, паглядзеў на хлопцаў. — Правізія хоць маецца? А не тое, дык прыходзьце да мяне — накармлю чым змагу: бульба ёсць, капуста. Спытаеце дзеда Шыша. Мяне кожны ведае.

І ён пакрочыў прэч.

— Дзед Шыш! — паклікаў старога Крупянка.

— Чаго яшчэ? — не вельмі ахвотна павярнуўся на голас стары.

— Ломік прынясіце... гэта, ага, папрасіў, прыкметна хвалюючыся, Крупянка.

— Добра.

Крупянка і Якушэнка, пра-вёўшы старога вачыма, намерыліся схадзіць у царкву: там павінны быць дошкі. Дзе ж яшчэ, калі не там? Тым больш яна побач, за якія-небудзь сто крокаў. Дзіўна: дзверы ў царкву былі незамкнёныя, а ўнутры — нікога. Салдацікі агледзеліся. Так і ёсць — вось яны, дошкі. Падлога моцная, дошкі шырокія і новыя. Пашэнціла дык пашэнціла!

— А як гэта мы без лома прыйшлі? — пацiснуў плячамі Якушэнка. — Без яго і тут, у царкве, не абыдземся. Значыць, так: я да дзеда Шыша, а то пакуль яго дачакаемся — рак на гары свісне! Прыйшлі, называецца, загад выконваць — з сякерай і малатком.

— І без цвікоў, — хмыкнуў Крупянка.

Стары Шыш пакорліва вынес салдацікам лом і цвікадзёр, а калі пачуў, дзе яны сабраліся браць дошкі, цяжка ўздыхнуў, перахрысціўся, а потым, сурова зірнуўшы на байцоў, з дакорам спытаў:

— А Бога не баіцеся?

Яму не адказалі.

— Пабойцеся Бога, маладыя людзі.

— А штаб куды, на аблокі? — нарэшце кіўнуў на неба Крупянка.

— Гэта ж царква! Бог не даруе! Ён усё бачыць!..

Шыш, безнадзейна махнуўшы рукой, патупаў у хату. Як усё роўна сам падаўся падалей ад граху.

Крупянка узрываў падлогу, а Якушэнка адносіў дошкі. Калі ён прывалок чарговую дошку да будынка сельсавета, то ле-дзьве не страціў мову: тых, ранейшых, дошак на месцы не аказалася. «Дзівосы, аднак!» Пабег у царкву, каб падзяліцца навіной з Крупянкам. Аднак не дабег — па дарозе яму стрэўся нямко, малады яшчэ хлапчына, які, жэстыкулюючы, выказваў, па ўсім адчувалася, сваю незадаволенасць тым, што робяць байцы:

— А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

На шум выйшаў з царквы ўвесь потны і ў пыле Яку-шэнка. Ён нейкі час глядзеў на нямко, нічога не разумеючы. Толькі калі той уцёк, Крупянка нервова растлумачыў сітуацыю:

— Адны не даюць, іншыя — крадуць! Ну, і што цяпер?!.

Неўзабаве байцы адшукалі дошкі, нямко далёка іх не завалок: яны ляжалі ў рове, які пачынаўся адразу ж за будынкам сельсавета. Прынеслі іх назад, прыкінулі: мабыць, дошак павінна хапіць. Заставалася адно — чакаць старшыну Гусева з цвікамі. Толькі позна ўвечары з'явіўся той, доўга мацюкаўся, раз-пораз падкрэсліваючы, з якой цяжкасцю дасталіся яму гэтыя цвікі, гарэлі б яны сінім полымем!

Да раніцы загад быў выкананы. А неўзабаве над Мадорай праляцеў «Юнкерс» і скінуў некалькі бомбаў на цэнтр сяла. Адна з іх патрапіла ў будынак сельсавета. Вяскоўцы бачылі, як высока ў неба, уздыбўшыся, узляталі дошкі…

Ці паспелі вярнуцца на баявыя пазіцыі Крупянка, Якушэнка і старшына Гусеў — невядома. Ніхто не бачыў, каб яны пакідалі сяло. Нават стары Шыш. Ён толькі паўтараў, стоячы ля ацалелай царквы:

— Я ж казаў ім, неслухам!.. Я ж казаў ім!..

Творчы партрэт

# «Спазнаў я у жыцці святло і змрок...»



На адпачынку ў Гаграх.

**Таленавіты паэт і сур'ёзны, удумлівы даследчык літаратуры, Мікола Арочка мог бы адзначыць сёлета 85-годдзе. Аднак лёс распарадзіўся інакш.**

## ВЁСКА ЯК ПАРАТУНАК

На гадах яго дзяцінства, як і ў іншых прадстаўнікоў гэтага пакалення, — пагрозлівы водсвет Вялікай Айчыннай: «*Мне лічылі гады не зязюлі, / А кулі — / Чакалі, вось-вось дарасту! / Яны ўжо гукалі мяне ад матулі*» («Вяртанне ў 1930-ты»). Падзеі вайны ў праекцыі на асабісты лёс ажылі ў многіх вершах 1960 — 80-х гадоў («Перакалочаныя ночы», «Падранак вайны», «Балада блакады», «Балада бульбянога поля», «Далёкія кастры» і інш.). На апошнім этапе творчасці паэта яны ўпісваюцца ў кантэкст часу — жорсткага і бесчалавечнага XX стагоддзя, са згубнымі эксперыментамі над прыродай і чалавечай душой. А яго драматычная паэма «Курганне», напісаная на мяжы 1980-х, заняла прыкметнае месца ў так званым хатынскім паэтычным цыкле нацыянальнай літаратуры.

Праз хваробу вучоба ў школе для Міколы зацягнулася аж да 1951 года. Потым — філфак БДУ, праца ў рэдакцыях «Сельскай гаспадаркі» і «Літаратуры і мастацтва», аспірантура пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы, дзе паэт абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. Акадэміі навук Мікалай Арочка аддаў больш за трыццаць гадоў.

У сярэдзіне 1980-х жыццёвыя абставіны прымусілі яго перавезці сям'ю са стольнага Мінска ў родную вёску. На доўгія гады горад, дзе была неабходная душэўным памкненням праца, і вёска, дзе знаходзілася сям'я, існавалі ў непарыўным адзінстве. Еднасць «з віламі, плугам» бачылася ратункам, несла хоць нейкае супакаенне «развярэджанаму духу» пасля трагічнай, непраяснёнай смерці старэйшага сына. Малая радзіма і раней ратавала паэта: у трыццацігадовым узросце ён перажыў цяжкую форму інфаркту, пасля чаго пакінуў працу і нейкі час, зноў жа, з сям'ёй, жыў у вёсцы.

## ВУЧОНЫ ПАЭТ

У творчай дзейнасці Міколы Арочкі аказаліся цесна знітаванымі, калі так можна сказаць, літаратурная тэорыя і літаратурная практыка. У прадмове да кнігі выбранага «Памяць зярнятаў» пісьменнік зазначыў: «Палова майго творчага жыцця аддадзена крытычным асэнсаванням паэзіі сяброў, таварышаў па пяру». У набытку даследчыка — кнігі «Валянцін Таўлай» (1969), «Галоўная служба паэзіі» (1974), «Беларуская савецкая паэма» (1979), «Саюз часу і майстэрства» (1981), «Максім Танк. Жыццё ў паэзіі» (1984), «Поэзия и война» (1987), «Пад высокай зоркай: Паэзія М. Ю. Лермантава ў творчым лёсе Аркадзя Куляшова» (1990). Таксама ён аўтар шэрагу артыкулаў у «Истории белорусской советской литературы» (1977), у чатырохтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» (1999 — 2003), у зборніку «Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей» (1993 — 1995).

Ацэнкі і назіранні Арочкі-даследчыка актуальныя да нашага часу. Так, сённяшні літаратуразнаўца не можа не ўлічваць яго прачытанне паэм Я. Купалы, Я. Коласа, А. Куляшова, М. Танка, З. Астапенкі. Эрудыцыя і тонкае адчуванне мастацтва дазвалялі М. Арочку быць чуйным, уважлівым і адначасова прынцыповым: гаварыць не толькі пра дасягненні, але і пра пэўныя пралікі (дастаткова зазірнуць у кнігу «Максім Танк. Жыццё ў паэзіі»).

## «НЕ СТРАШНА ЎЖО АНІЧОГА...»

Аднак і «ўласнае светатварэнне» не было чымсьці другарадным. Вершы юнака са Слонімшчыны з'явіліся ў друку ў 1949 годзе. Праўда, ніводзін з іх, як і пазнейшых трох гадоў, не быў прадстаўлены ў першым зборніку «Не ўсе лугі пакошаны» (1958). Паэт-пачатковец паставіўся да знаёмства з чытачом па-свойму патрабавальна: уключыў за рэдкім выняткам толькі тыя творы, што былі народжаны новай грамадскай сітуацыяй.



Сустрэча з чытачамі ў вёсцы Вецявічы, канец 1970-х.

Як слушна зазначае Г. Дашкевіч, ранія вершы М. Арочкі «былі напоўнены маладым задорам, светлым аптымізмам, імкненнем спазнаць «далеч нязнаных дарог»... Лірычны герой — сейбіт дабрыні, носьбіт духоўнасці». Зразумела, час, асабістыя жыццёвыя калізіі не маглі не ўнесці карэктывы ў светаадчуванне творцы. Сталы паэт, азіраючыся на пражытае, бачыў беды, скруху, выпрабаванні. У вершы сярэдзіны 1980-х «Пострах» ён прызнаваўся:

*Мне сягоння, уласна,*
*Не страшна ужо анічога —*
*Ані гэты, ні той,*
*Нематой апавіты свет.*
*У жыццё улюбёны,*
*Я страціў у ім замнога...*

Апошняе дзесяцігоддзе мінулага веку пахавала многія спадзяванні паэта — як асабістыя, так і грамадзянскія. Трагічна сышоў з жыцця малодшы сын, за ім — нявестка, і пяцігадовы ўнук застаўся круглым сіратой.

А потым — катастрофа на ЧАЭС.

У творах чарнобыльскай тэматыкі М. Арочка рэдка звяртаўся да канстатацыі, як, напрыклад, у «Паслячарнобыльскім эцюдзе». Ён імкнуўся зразумець, чаму «*саскочыў са стрэлак наш свет*», чаму «*сто Хірасім на радзінным рахунку*». У адным ланцугу з'яў, што спарадзілі аварыю і множылі яе наступствы, паэт называе «пустадушша», прыстасавальніцтва, нацыянальны нігілізм, палітычнае фарысейства («На трасе Хірасіма — Чарнобыль», «Закон адплаты», «Чарнобыль і мова», «Хмаркі лёсу»).

І ўсё ж улюбёнасць у свет, атрыманая ў спадчыну ад продкаў (мо і ад бабкі Хімы, якая стала гераіняй ранняй аўтабіяграфічнай паэмы «Хіміна хата»), не дазволіла паэту занапасці душой, пазбыцца веры ў чалавека. У спектры яго адчуванняў не толькі боль, сум, расчараванне, але і надзея на адраджэнне, удзячнасць родным і блізкім, сцішаная радасць (хоць і з неадступна-звыклым прысмакам гаркоты) ад судакранання з прыродай, захапленне папярэднікамі, якія насуперак усяму тварылі нацыю... Усё гэта прысутнічае ў вершах, напісаных «на апошняй вярсце» (А. Куляшоў).

## ГІСТОРЫЯ ЗЯМЛІ

Ужо ў першым зборніку малады паэт акрэсліў сваё творчае (і чалавечае) *credo*: «*Родны край! / ...Не хачу між калоссяў / быць коласам тым, / Што часамі ўзрастае без зерня*». Ён не раз выказваў імкненне працаваць на беларускае адраджэнне. Тым больш сімвалічныя вобразы коласа, зерня, жыта, хлеба, якія стануць скразнымі ў творчасці М. Арочкі, у тым ліку загучаць у назвах вершаў, паэм, кніг.

Паэтызацыя ўласнай сялянскасці выразна адчуваецца ў зборніку «Падземныя замкі» (1986) і ў кнігах выбраных твораў «Колас на ржышчы» (1980), «Бяздоннае» (1985), «Памяць зярнятаў» (1991). Адсюль паходзіць і сталы роздум пісьменніка над лёсам блізкіх людзей, народа ў цэлым, а таксама вымушанае вяртанне да вытокаў. З-пад даху «радзіннай хаты», куды прыспешваў «*за сотні вёрст — штотыдзень — грукат кол*», жыццёвыя каштоўнасці адкрываліся паэту па-новаму, набываючы першародную аголенасць. Паэзія працы на зямлі дазволіла больш глыбока зразумець трагедыю бацькі, увогуле селяніна-Гаспадара, адлучанага, а пасля і адвучанага ад зямлі.

Асобная, вельмі важная старонка творчасці М. Арочкі — гэта мінулае Беларусі. Спасцігаючы пройдзены народам шлях, паэт неаднойчы запыняўся ў здзіўленні: «*Як ты выжыў... / мой продак лапцюжны, / на скрыжаванні мячоў і магіл? / Як данёс да мяне, / ад пятлі ўратаваўшы, / роднай мовы пяшчоту, / і пах, і красу?*» («Дарогі Беларусі»).

У ліку першых ён па-мастацку ўзнавіў постаці вялікіх князёў Кейстута, Вітаўта і Ягайлы (драматычная паэма «Крэва»), адрадзіўшы на мяжы 1970 — 80-х гадоў паэтычную традыцыю М. Гусоўскага і Я. Вісліцкага. Пазнейшая «Каронная балада Вітаўта» сведчыць: паэта ўсё яшчэ хвалявала асоба каранаванага князя, які так і не дачакаўся сімвала сваёй роўнасці з еўрапейскімі каралямі-ўладыкамі. У баладзе, як і ў паэме, паэт прапануе ўласную, глыбока сімвалічную версію даўніх падзей: карону, «*рассекшы мечам надвая, / Прыцвікавалі ў Кракаўскім саборы*».

Наступнай драматычнай паэмай гістарычнай тэматыкі стаўся «Судны дзень Скарыны». Даследчыкі літаратуры аднеслі паэму да найлепшых набыткаў скарыніяны.

Сярод апошніх твораў М. Арочкі — «Каранацыя Міндаўга». Тры названыя паэмы па задуме аўтара ўтвараюць паэтычную трылогію пра перыпеты гістарычнага лёсу народа, пра поўны драматызму шлях да ўласнай дзяржаўнасці.

## ЛІШНІЯ ДЗЕЦІ

Асоба і гісторыя знітаваныя ў гістарычным ліра-эпасе «Мелодыя Таўлая», у шэрагу вершаў на матэрыяле менш аддаленай мінуўшчыны ці нават сучаснасці. Так, падзвіжнікам, пакліканым да жыцця «*вечнай прагай Адраджэння*», паэт называе земляка, «*крэўніка духу*» Алега Лойку.

Асветнікі заўжды былі пад увагай паэта («Крошын», «Каля магілы Максіма Багдановіча», «Голас беларускіх мясцін у Вільні», «Якуб Колас у мінскім астрозе», «Спрэчка Багушэвіча з Нігілістам», «Заклінанне Чыжыка беларускага» і інш.). Варункі беларускай гісторыі нярэдка складваліся так, што яны, лепшыя дзеці, аказваліся незапатрабаванымі ў сваім Доме (драма Францыска Скарыны) ці, што яшчэ страшней, аб'яўляліся ворагамі. Асабліва вызначылася ў апошнім мінулае стагоддзе. М. Арочка праходзіць трагічнымі шляхамі спавядальнікаў нацыянальнай ідэі ў Заходняй Беларусі, аўтараў першай «Беларускай граматыкі» і першай «Беларускай геаграфіі» Браніслава Тарашкевіча і Аркадзя Смоліча, святара і пісьменніка Адама Станкевіча, паэткі Ларысы Геніюш...

Творы «Бытаньскі шлях», «Інструкцыя Каліноўскага», «Прадпісанне ў пекла», у якіх узнаўляюцца падзеі 1863 — 64 гадоў, — у пэўным сэнсе працяг працы У. Караткевіча. Як вядома, XIX стагоддзе было любімым у аўтара «Каласоў пад сярпом тваім», і асабліва гонар выклікала ў яго выяўленае праз паўстанне імкненне народа да волі. Ідэі волі, незалежнасці — асноўныя каштоўнасныя прыярытэты і ў М. Арочкі.

Аднак сувязь паміж творцамі больш непасрэдная. Арочкаў верш «Замак Уладзіміра» (1985) заканчваецца такімі радкамі:

*Памажы майму одуму, костцы маёц,*
*айчына,*
*Хоць часцінку падняць*
*і панесці на ўласным гарбе.*
*Пакрамсаны я ўвесь,*
*але нейкі двухжыльны, жывучы,*
*Як зямля, дзе ўстае маё слова з любві,*
*з крыві.*
*Сябра мой, мой пагодак,*
*высокі наш замак лятучы,*
*Ты далоні свае ускладзі на мяне —*
*блаславі.*

Слушна зазначыў М. Мікуліч: «Творчая спадчына М. Арочкі — значная старонка ў гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя. Уся яна — мастацкая і літаратуразнаўчая — з'яўляецца прыкладам сумленнага служэння пісьменніка, гуманіста, патрыёта». Жыццё Міколы Арочкі ў літаратуры доўжылася больш за паўстагоддзя. І было яно багатым на ўласныя мастацкія адкрыцці, на наватарскія прачытанні класікі, у спасціжэнні разнастайнай літаратурнай сучаснасці.

**Таіса ГРАМАДЧАНКА,**
**фота з сямейнага архіва паэта**

# «Я — зоркі імя, што не трапіла ноччу ў аблаву...»

**У тых, хто развітваецца з жыццём па ўласнай волі, заўсёды ёсць трагічныя прычыны (не заўжды зразумелыя нават самым блізкім), але галоўная — непрыняцце рэальнасці, немагчымасць прыстасавацца да яе, пайсці з ёй на кампраміс, змірыцца.**

Мінскі паэт Ігар Паглазаў не дажыў да свайго чатырнаццацігоддзя два тыдні. Вонкава ў яго ўсё было добра: прыгожы, фізічна развіты і здаровы юнак, які выглядаў старэйшым за свой узрост гадоў на пяць, адзіны сын у сям'і, атулены любоўю; цёплыя, даверлівыя адносіны з маці. У той зімовы дзень, 14 снежня 1980 года, ён скончыў жыццё самагубствам. Ён загадзя ведаў, што сыдзе.

*Проститься нет времени,*
*и все от того,*
*Что сегодня не так, как вчера…*

Чаму ён гэта зрабіў? Напрошваецца банальнае абывацельскае пытанне: чаго яму не ставала? Адказу няма, а калі і ёсць, то яго трэба шукаць у вершах Ігара.

Вершы былі выдадзеныя пасля яго смерці (зборнікі «Закрываю двери, которые не открыл», Мінск, 1991; «Стихотворения», Мінск, 1994; «Подайте мне крепкую руку…», Мінск, 2006).

Паэзія Ігара — прыклад вельмі ранняга вопыту перажывання, пачування, мыслення. Цяжка паверыць у тое, што юнаку, аўтару ніжэйпрыведзенага верша, няма і 14 гадоў.

***

*Я распят над твоею кроватью.*
*Что мне слёзы и что мне обман?*
*Двухкрестовое это распятье,*
*Может, снится тебе по ночам?*

*Словно бог, позолоченный солнцем,*
*Я распят у тесовых ворот.*
*А она еще громче смеется,*
*Проходя мимо этих ворот.*

*Что ж ты смотришь,*
*ну что же ты смотришь?*
*Я уже не могу на кресте.*
*Двухкрестовое это распятье*
*Пусть приснится однажды тебе.*

(жнівень 1980)

Уражвае тое, наколькі востра юнак адчуваў і перадаў у вершах сваю «нетутэйшасць»: у гэтым жыцці, у гэтай фізічнай форме.

Кожны геній, пэўна, адчувае сваю адрознасць, непадобнасць, «іншасць». Паміж Ігарам і звычайным жыццём з яго штодзённымі праблемамі пралягала бездань, і чым больш дарослым ён станавіўся, тым больш яна паглыблялася і пашыралася:

*Я сослан сам в себя, на дно колодца,*
*В смятенье душ, на хоровод сердец.*
*Но для меня есть озеро и солнце,*
*И тёмный, вдалеке от жизни лес.*

Што было для Ігара ў тым лесе, пад тым сонцам? Што такога, што было яму даражэй за ўсё? І з кім можна было тое падзяліць, запрасіць туды? Да каго звяртаецца паэт у мініяцюры?

*«Друг мой! Нас могут разделять годы, расстояния, худая молва, ветер, бьющий в лицо и не щадящий наших выплаканных глаз. Нас могут разделять минуты, часы, дни, месяцы, годы, и пусть даже нет тебя, я всё равно жду. Жду, что ты войдешь тихо, неожиданно, в вечер, когда звезд на небе больше, чем на земле, и месяц напоминает половину арабского дирхема. Ты войдешь и, ничего не сказав, сядешь рядом со мной.*

*Друг мой, друг мой, ты один меня поймешь, один выслушаешь. Один ты будешь молчать, когда надо молчать, и говорить, когда надо говорить».*




Калі і стаяла за гэтымі радкамі рэальная асоба, то вобраз яе ідэалізаваны. А гэта сведчыць пра неймаверную адзіноту аўтара. Хаця і былі ў яго сябры, і з мамай былі даверлівыя адносіны, але… Пэўна, думкамі пра смерць лепш дзяліцца з уяўным сябрам.

Каб зразумець, на якім возеры «спачывала» душа Ігара, давайце паспрабуем уявіць, як ён рос, як жыў.

Інтэлігентная сям'я, паміж бацькамі — любоў і згода. Маці — выкладчыца літаратуры ў школе, потым — у інстытуце. Размаўляла цытатамі з вершаў, для сына падбірала вершы пра герояў, вайну, Радзіму. Бабуля Ігара заўважала, што хлопчык гуляе толькі ў вайну, любіць, каб у яго стралялі, а ён падаў, з жаданнем і захопленасцю, і «паміраў», сам не страляў ніколі. Выхаванне па прынцыпе: жыць — не для сябе, усё аддаць Радзіме, вялікай ідэі. У юным узросце Ігар азнаёміўся з усёй сусветнай класікай. У доме пастаянна гучаць вершы: Ясенін, Пастарнак, Лорка, Мандэльштам. Мастацтва, якое любіць смерць. Смерць, што заўжды вышэй за жыццё. Ці не тады ў душы хлопчыка пачала выкрышталізоўвацца так званая зачараванасць смерцю, якая ў юнацтве перарасла ў тугу па тым, нязведаным, тагасветным? Закаханасць у смерць. І яе вобраз быў далёкім ад той пачварыны з касой, што можна сустрэць на ілюстрацыях да дзіцячых казак. Хутчэй, яна ўяўлялася яму нейкім актам вызвалення, калі адчыняюцца ў невядомае заўжды зачыненыя дзверы.

***

*Тоска по перемене мест,*
*Ты овладела мной отныне.*
*В вечернем шепоте берез*
*Я слышу ласковое имя.*

*Я не могу его понять.*
*Я не могу его осмыслить.*
*Лишь только жить и осязать*
*С его тоской уже привычной.*

(кастрычнік 1980)

Суіцыдолагі сцвярджаюць: узрост з 15 да 24 гадоў — самы небяспечны (а Ігар Паглазаў, нагадаю, фізічным развіццём гадоў на пяць апярэджваў свой узрост). Віною таму — гармоны, што абуджаюць самастойнасць мыслення. Плюс — юнацкі максімалізм, экстрэмізм, а таксама тое, што яшчэ не выпрацавалася звычка жыць. Вось галоўныя прычыны ранняга суіцыду.

Ёсць яшчэ адна прычына, чаму развітацца з гэтым светам у юным узросце лёгка: чалавек, уся істота якога напоўнена жыццём, што ўваходзіць у сілу, не верыць у сваю смяротнасць.

Ігар не верыў у тое, што *там*, па *той* бок — нічога няма. А калі ёсць, то як «паглядзець», *што*? Вось яго верш прыкладна за 8 месяцаў да трагічнай падзеі:

***

*Кто-то умер. Мне музыка слышится.*
*Под окном не меня ли несут.*
*Не моя ль голова колышется*
*По дороге на Страшный суд?*

*Не меня ли руками трогают?*
*Ниспадая по двум щекам,*
*Две слезы… Кто там в небе вороном?*
*Уж не я ли сам?*

*А глаза отражаются в месяце.*
*Я прошу, я молю, теребя:*
*— Уходи. Я тебя ненавижу.*
*Бог ты мой, как люблю я тебя.*

(красавік 1980)

Ледзь не ў кожным вершы апошняга года жыцця Ігара пранізліва, надрыўна гучыць тэма развітання, сыходу (*Я скоро, наверно, уеду. / Конечно, я скоро уеду. / От горечи плача, быть может, / Пойдешь ты по санному следу…*). Таксама — тэма непазбежнасці, незваротнасці. Хаця да трагедыі яшчэ заставаўся час (і часам думаецца: можна было яе прадухіліць), разумееш: аўтар сам адчуваў сваю асуджанасць, наканаванасць:

***

*Мой поезд уезжает.*
*Я много не сказал.*
*И руку на прощанье*
*Тебе я не пожал.*

*Я много не доделал.*
*Оставил на потом.*
*Мой поезд уезжает.*
*Я покидаю дом.*

*Я закрываю двери,*
*Которых не открыл.*
*Мой поезд уезжает.*
*Мне по дороге с ним.*

*Мой поезд уезжает.*
*Счастливого пути.*
*И я ищу дорогу,*
*Которой не найти.*

(жнівень 1980)

А наступны верш Ігара Паглазава бачыцца алегорыяй яго жыцця тут, на зямлі, сярод нас з вамі:

***

*Кто ты? Не знаю,*
*А может быть, знать не хочу.*
*С кем ты? Откуда?*
*К какому клонишься плечу?*

*Были любовь, расставанье…*
*И вот я пришёл.*
*Кто мне откроет?*
*Вот кто-то к двери подошёл.*

*…Слушает, дышит.*
*Ему ничего не скажу.*
*Что? Не живет здесь?*
*Ах да, извините, пойду.*

*Я ухожу с чемоданчиком*
*В злую пургу.*
*Я ухожу. Уже больше сюда*
*Не приду.*

*Кто ты? Не знаю,*
*А может быть, знать не хочу…*

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

## Дарэчы

**Не заўсёды яркі талент, заяўлены ў зусім яшчэ юныя гады, гучыць трагічна. І неабавязкова ён, згодна з вядомым вобразам, прамільгне каметай — і згасне.**

- Звярнуцца хоць бы да класікаў. З якім творам перш-наперш асацыюецца Аркадзь Куляшоў? Вядома ж, з вершам «Бывай»: «Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая. / Чаму так горка, не магу я зразумець…». Адзін з самых пазнавальных вершаў беларускай літаратуры, які быў пакладзены на музыку Ігарам Лучанком і ператвараўся ў песню «Алеся» ў выкананні «Песняроў», напісаў юны закаханы паэт. Яму было чатырнаццаць. Верш з'явіўся ў друку ў маі 1928 года (часопіс «Полымя»). Што не менш цікава — і паказальна, — у школу Аркадзь пайшоў, не маючы яшчэ і чатырох гадоў.
- Яшчэ адзін «класічны» прыклад — Уладзімір Караткевіч. Яго школьны сябар Леанід Крыгман згадваў, што Уладзімір ужо ў чатырнаццаць валодаў энцыклапедычнымі ведамі па літаратуры і гісторыі. Пасля такога наўрад ці станеш здзіўляцца наступнаму факту: першы варыянт п'есы «Млын на Сініх Вірах» Караткевіч напісаў у восьмым класе. А славутае «Дзікае паляванне караля Стаха» нарадзілася ў 1950-м — Уладзіміру тады ішоў дваццаты год.
- Валярына Кустава — вядомая сёння паэтка, тэлевядучая, перакладчыца. Пісаць яна пачала вельмі рана. Настолькі рана, што першая яе публікацыя ў друку (не самвыдаце) прыйшлася на шэсць гадоў. Пра невыпадковасць гэтай творчай з'явы сведчыць першая кніга паэткі: «Кроў Сусвету» выйшла, калі Валярына была шасцікласніцай (ёй на той час было адзінаццаць). Другая яе кніга «Каб неба сагрэць» з'явілася ўжо ў 2004-м, калі паэтцы было дваццаць. Прадмову да кнігі пісаў Рыгор Барадулін.
- Ксенія Шталенкова, аўтарка прыгодніцкага рамана «Адваротны бок люстра» (трылогія!), пачала ствараць свой творчы сусвет у школьныя гады і ў пятнаццаць скончыла названы раман.
- Найбольш яркі прыклад маладой і пры гэтым не тужлівай, не «суіцыдальнай» творчасці ў найноўшай літаратуры — вершы і празаічныя абразкі Касі Глухоўскай. Адносна нядаўна, у 2013 годзе, выйшла кніга Касі «Калі дрэвы растуць з галавы»: зборнік складаецца з вершаў, якія паэтка пісала ва ўзросце ад 14 да 18 год. «Ну і што, — скажаце вы, — хто не піша ў чатырнаццаць?..» На што я адкажу: «Так». Але далёка не заўсёды гэта можна назваць літаратурай — у адрозненне ад вершаў Касі.

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# «Ка мне, у лес над Дняпром…»

І вось стужка перарэзаная, госці ступілі за парог сядзібы. Што мы бачым?

## СМЕХ У ТРЫЦЦАТЫХ

Перад тым, як звярнуцца да дэталяў, варта сказаць пра афармленне ў агульным: гэта стылізаваныя выявы дрэў і белачорна-залатыя колеры. Так Купалаўскі музей чарговы раз выявіў добры густ.

Новая экспазіцыя размешчаная ў шасці залах. Першая з іх прысвечаная Янку Купалу як асобе ў гісторыі і ўвогуле літаратурнаму працэсу 1930-х. Але што менавіта гэта значыць? Гэта значыць жыццё паэта ва ўмовах актыўнага сацбудаўніцтва, голас таленту ў агульным хваласпеве.

І таму сімвалічна выглядае супастаўленне двух партрэтаў Янкі Купалы. Вось зусім юны паэт, відавочны рамантык (кім яшчэ быць у 20 гадоў?), споўнены веры ў лепшае. Адухоўлены позірк, модная на той час поза. І вось — народны паэт Беларусі: іранічны погляд, паўусмешка, прыхаваная стома. Здымкі вядомыя, але такое суседства па-новаму іх адкрывае. Гэта ўдача стваральнікаў новай экспазіцыі.

> *Вечнае лета за акном, зялёны сад і ў ім — задуменны Янка Купала падчас шпацыру. Адно гэта ўражвае не менш за ўсю новую экспазіцыю.*

Асобная ўвага — паэме «Над ракой Арэсай»: тут і розныя яе выданні, і ілюстрацыі, і іншыя матэрыялы, датычныя твора. Твора спрэчнага, між іншым. І дарэчы яшчэ раз звярнуць увагу на час, у які мы пераносімся, — трыццатыя гады. Тыя самыя трыццатыя, калі за ноч знікалі дзясяткі людзей — і многія назаўжды. Тыя самыя трыццатыя, якія пачаліся для Купалы спробай самагубства і завяршыліся ордэнам наўзамен ордара. Так паэма «Над ракой Арэсай» ператвараецца ў яркую ілюстрацыю часу і ўмоў існавання пісьменніка ў ім. Але варта азначыць і іншае: Янка Купала са шчырай цікаўнасцю ставіўся да калгаснікаў, рабочых, словам, людзей справы. Гэтая сімпатыя, пэўна, і дазваляла яму пісаць вершы, якія ўспрымаюцца сёння як даніна страшным трыццатым — і ў той жа час гучаць нязмушана, нават кранальна.

І натуральна, савецкая літаратура не можа існаваць без Максіма Горкага. З'яўляецца ён і ў ляўкоўскай экспазіцыі — як калега Купалы і першы перакладчык яго твораў на рускую мову.

Звяртаем вашую ўвагу на арыгінульную карыкатуру: такім Купалу паказвалі рэдка. Міжволі задаешся пытаннем: то была спроба прыцягнуць чытацкую ўвагу — ці прыхаваная насмешка?.. Гэты непаўторны твор змешчаны ў аб'яднаным нумары «Літаратуры і мастацтва» і «Литературной газеты» ад 8 чэрвеня 1934 года.

## ХТОСЬЦІ ЁСЦЬ, НЯМА КАГОСЬЦІ

Упершыню Янка Купала з'явіўся ў Ляўках як госць. І шматлікія госці завітвалі да самога паэта, шчаслівага ўладальніка лецішча. Дарэчы, сам музей адзначае, што скразной тэмай новай экспазіцыі стала ўвасабленне вобраза «Госці», разгорнутага ў аднайменным вершы, які Купала напісаў у Ляўках.



Фота Наталі Купрэвіч.

Першую экскурсію па новай экспазіцыі праводзіць Вольга Пархімовіч.

Хто ж гасцяваў у Купалы? Па-першае, пісьменнікі. Па-другое, жыхары навакольных вёсак. І другое ўяўляецца нам больш цікавым. У «гасцінай» зале вельмі шмат здымкаў Купалы ў атачэнні мясцовых жыхароў, з якімі паэт мог размаўляць гадзінамі. І — весяліцца на вечарынках. Нездарма тут змешчаны гармонік, які належаў Івану Упеніку, — нязменнаму музыку на такіх вечарах. Паэт вельмі паважаў яго музычны талент. І на адкрыцці экспазіцыі мы пачулі ігру сына таго самага гарманіста Аляксея Упеніка.



Фота Анжалікі Пешкур.

Гарманіст Аляксей Упенік — сын музыкі Івана Упеніка, чыёй ігрой у час ляўкоўскіх вечарын захапляўся Янка Купала.

## А ХТО ТАМ ІДЗЕ?

Галоўнае (прынамсі, з пункту гледжання наведвальніка) новаўвядзенне Ляўкоў — інтэрактыўны пакой, дзе можна адпачыць, пачытаць вершы Купалы і заняць увагу дзяцей, што немалаважна, калі музей прымае школьныя экскурсіі. Але найперш вашую ўвагу прыцягне зусім іншае...

Вечнае лета за акном, зялёны сад і ў ім — задуменны Янка Купала падчас шпацыру. Адно гэта ўражвае не менш за ўсю новую экспазіцыю.

Цешыць, што музей не забыўся на пакой, у якім жыў падчас другога свайго прыезду ў Ляўкі Янка Купала разам з жонкай. Тут засталіся асобныя прадметы мэблі і рэчы (прыкладам, тагачасная перыёдыка). Але галоўная роля, вядома ж, адводзіцца вершам ляўкоўскага цыкла. Яны аб'ядноўваюць новую экспазіцыю, з'яўляюцца ў кожнай зале ў той ці іншай форме — у выкананні самога Купалы, у яго рукапісах, публікацыях, у песнях.

## ГАЛОЎНЫ ВАКЗАЛ БЕЛЛІТА

Кожны ведае верш «Спадчына». Але не кожны ведае, што напісаны ён у Оршы, на чыгуначным вакзале. Здымак таго самага будынка можна ўбачыць у зале, прысвечанай Аршаншчыне — дакладней, сувязі Купалы з гэтым адметным для беларускай літаратуры краем.

Паэт надзвычай цікавіўся гісторыяй гэтых мясцін і моцна перажываў, што натуральны ландшафт яго быў парушаны падчас Першай сусветнай вайны (згадаем верш «Старыя акопы»). Гэтак жа цікавіўся ён археалогіяй, захапляўся нумізматыкай. Як адбітак такога інтарэсу — унікальныя матэрыялы з раскопак Пятроўскага вала ў вёсцы Копысь (знаходкі датуюцца X — XIII стагоддзем).

## НОВАЕ ФОТА КУПАЛЫ

Завяршае новую экспазіцыю зала, быццам бы прысвечаная лецішчу паэта. Так, тут ёсць здымкі з будоўлі, іншыя дакументы. Але ўражанне застаецца іншае: гэта хутчэй падсумаванне ўсяго ўбачанага — ці дадатак да яго.

Мы звяртаем увагу на тры рэчы.

Першае — своеасаблівы лётніцкі куток. Янка Купала з вялікай цікавасцю, калі не захапленнем, ставіўся да крылатых машын і іх утаймоўнікаў. Асабліва ж ён сачыў за «ўтаймоўніцамі»: лётчыцам прысвечаныя вершы «Алеся», «Тры арліцы» і іншыя. І не мог гэты экспазіцыйны блок абысціся без «Хлопчыка і лётчыка» — таксама верш ляўкоўскага цыкла.

Другое — фотаздымкі. Адзін з іх — найноўшае паступленне: сёлета яго перадаў у дар музею адзін з мясцовых жыхароў. На фота — Янка Купала падчас свята паэзіі ў Ляўках. Цікавы сваёй непасрэднасцю здымак паэта з Сяргеем Гарадзецкім, вядомым перакладчыкам Якуба Коласа.

Трэцяе — перакідны альбом перакладаў, зробленых Янкам Купалам. Так, яго творы перакладаліся на многія мовы свету, і найбольш на рускую, у чым вялікая заслуга Міхаіла Ісакоўскага. Але і сам паэт займаўся паэтычнымі перастварэннямі. Шаўчэнка, Някрасаў, Канапніцкая, Міцкевіч і многія іншыя загучалі па-беларуску голасам Купалы. Рукапісы гэтых перакладаў можна цяпер пабачыць на свае вочы.

Новая экспазіцыя прынятая — і чакае гасцей. «Ка мне, у лес над Дняпром» — як запрашаў калісь Янка Купала.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Вырвацца з руціны

**Экспазіцыю «Адлюстраванне» ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча склалі каля пятнаццаці яркіх, нестандартных пейзажаў Тамары Пракоф'евай, напісаных алеем.**

Негледзячы на малады ўзрост, на рахунку Тамары — каля сямі персанальных выставак. Мастачка малюе з дзяцінства, спрабуючы сябе ў розных жанрах графікі і жывапісу, займаецца вырабам цацак і нават стварае лялечныя мультфільмы.

У Мінск мастачка прывезла невялікую частку сваіх твораў, але гэтага хапае, каб натхніцца пазітыўнай, сонечнай энергетыкай, ацаніць арыгінальную аўтарскую тэхніку. Падчас адкрыцця вернісажу Тамара распавяла, што свядома імкнецца выйсці за межы рэалізму, і таму пастаянна эксперыментуе, звяртаецца да незвычайных стыляў. Экспазіцыя — разважанні пра ўзаемаўплыў прыроды і ўрбанізацыі.

Тамара Пракоф'ева называе ўласныя работы дарожнымі нататкамі: у іх адлюстраваны месцы яе вандровак. На палотнах — фантазіі пра мора і горы, адметныя ландшафты, нечаканыя ракурсы еўрапейскіх гарадоў — Гданьска, Будапешта, Прагі… Асобнае месца займаюць панарамы роднага Віцебска. Творчасць мастачкі адзначана духам блукання, прагай натхнення і новых уражанняў, пошукам цікавых, раней невядомых мясцін. Калі глядзіш на работы, узнікае жаданне вырвацца з паўсядзённай руціны і выправіцца ў падарожжа па розных краінах.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Скажы, хто твой сябра?..

**Па даўняй традыцыі 9 снежня Літаратурны музей Максіма Багдановіча чакаў гасцей — людзей, якія лічаць сябе сябрамі паэта і з пашанотай згадваюць яго імя не толькі на круглыя юбілеі.**

Тэма сяброўства стала галоўнай на вечарыне «Дабрыдзень, паночкі», дзе беларускія аўтары чыталі вершы і разважалі пра сяброўства ды творчасць.

Перакладчыца Ганна Янкута распавяла пра добрую завядзёнку дараваць сябрам на кожны дзень нараджэння новы пераклад альбо цікавы твор і прачытала перапраўзноўлены на беларускай мове верш Альфрэда Тэнісана. Паэт Георгій Барташ ужо на рускай мове прадставіў пераклады твораў сваіх сяброў, першым з якіх апынуўся Максім Багдановіч. Некалькі вершаў, напісаных дзякуючы знаёмым літаратарам, агучыў паэт і літаратуразнаўца Віктар Жыбуль. «Літаратура яднае людзей. Таму ўсе аматары Максіма Багдановіча павінны быць між сабой сябрамі», — адзначыў спадар Віктар.

Вядучы імпрэзы Міхал Бараноўскі фрагментам аповесці пачатку XX стагоддзя вярнуў прысутных у гады юнацтва М. Багдановіча і нагадаў, што паэт рэдка меў магчымасць сустракацца са сваімі сябрамі. Таму абмен уражаннямі і роздумамі часцей за ўсё адбываўся праз ліставанне.

Удзельнікамі вечарыны таксама сталі паэты Уладзь Лянкевіч, Тацццяна Нядбай, Павел Горбач і інш. На словы Максіма Багдановіча прагучала некалькі песень, адна з іх — у выкананні барда Алеся Камоцкага, які натхніў наведвальнікаў новымі музычнымі творамі па матывах ірландскіх народных песень.

**Юлія ШПАКОВА**

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі



Кніжны свет

18 снежня 2015 г.

*Унікальны праект*

# Эпас фінскі — пераклад беларускі

**Беларуская стала 61-й мовай, на якой загучаў самабытны голас нацыянальнага карэла-фінскага эпасу «Калевала». Над перастварэннем гэтага ўнікальнага паэтычнага твора даўжынёй больш як 2700 радкоў працаваў выдатны перакладчык Якуб Лапатка. Кніга пабачыла свет сёлета ў выдавецтве Зміцера Коласа пры фінансавай падтрымцы дзевяці беларускіх і фінскіх прадпрыемстваў ды бізнес-структур.**



*Фота Наталі Купрэвіч.*

*Перакладчык Якуб Лапатка прэзентуе «Калевалу».*

Прэзентацыя гэтага выдання, што прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, выклікала надзвычай шырокі грамадскі рэзананс. Павіншаваць перакладчыка і выдаўца з такой значнай падзеяй прыйшлі многія пісьменнікі, журналісты, грамадскія і культурныя дзеячы краіны. Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў у сваім прывітальным слове падкрэсліў:

— Паспяховая рэалізацыя гэтага кніжнага праекта — выдатны прыклад супрацоўніцтва дзяржавы і прыватнага выдавецтва. Кнігі не было б і без падтрымкі аддзялення Пасольства Фінляндыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Фінляндыі ў Літве і Беларусі Хары Макі-Рэйніка ў сваёй прамове не проста распавёў пра тое, як фіны сёння ўспрымаюць гэтую выдатную паэму, але і акрэсліў значэнне «Калевалы» ў культуры Фінляндыі, нацыятворчых працэсах, што адбываліся ў XIX стагоддзі. Спадар пасол зазначыў:

— «Калевала» — вялікая кніга, гэта адзін з найвялікшых літаратурных твораў у свеце. Розныя народы маюць свае адметныя гісторыі. Мы ведаем пра Аладзіна, «Тысячу і адну ноч», «Адысею», «Іліяду», «Песню пра Нібелунгаў», многа іншых выдатных эпічных твораў. А сёлета мы святкуем 180-годдзе першай публікацыі «Калевалы» разам з выхадам беларускамоўнага перакладу гэтай паэмы. Спадзяюся, што такім чынам мы адчыняем новае акно, магчымасць лепш пазнаць адзін аднаго, даведацца больш пра культуру, гісторыю, душу. Прафесар Эліяс Лёнрут, збіраючы паданні, песні для «Калевалы», за сем гадоў прайшоў тысячы кіламетраў па розных рэгіёнах краіны. Цікава, ці разумеў ён у той момант, наколькі важную справу робіць? Зборнік стаў выдатнай кнігай. Але для фінаў — гэта намнога больш, чым проста кніга. Гэта надзвычай важны культурны прадукт. Думаю, што, калі б не было «Калевалы», Фінляндыя не стала б той краінай, якой з'яўляецца цяпер.

I сапраўды, «Калевала», выдадзеная ўпершыню ў 1835 годзе, сталася доказам таго, што фіны — асобны народ са сваёй гісторыяй і ўсё пачалося задоўга да таго, як краіна стала часткай Швецыі на сем стагоддзяў. Паэма даказала і тое, што фінская мова — мова культуры, літаратуры. «Калевала» — не гістарычная работа, гэта зборнік паданняў, песень, якія нас пераносяць на тысячы гадоў таму. Яны перадаваліся шмат стагоддзяў, пакаленне за пакаленнем. «Калевала» закранае агульначалавечыя каштоўнасці, тэму нараджэння, смерці, нянавісці, кахання.

Цікава, што прафесар Эліяс Лёнрут, складальнік «Калевалы», сустракаўся з Генры Лангфэла — выдатным англійскім паэтам-рамантыкам. Лангфэла знаёміўся і з тэкстам «Калевалы». Паэт настолькі натхніўся фінскім эпасам, што вырашыў стварыць сваю эпічную паэму. Так быў напісаны і выдадзены ў 1855 годзе «Спеў аб Гаяваце». Дарэчы, у гучанні «Спеву…» адчуваецца ўплыў «Калевалы»: тут паўтараецца адметны памер — чатырохстопны харэй. Знакаміты пісьменнік Джон Толкін таксама захапляўся «Калевалай», дзякуючы ёй зацікавіўся фінскай гісторыяй, мовай і натхніўся на напісанне «Уладара пярсцёнкаў».

Сёння ж у Фінляндыі назіраецца сапраўдны рэнесанс «Калевалы». Паэмай натхняюцца мастакі, кампазітары, нават маладыя рок-гурты.

Выдавец Зміцер Колас зазначыў падчас прэзентацыі:

— З перакладчыкам Якубам Лапаткам мы супрацоўнічаем ужо не адзін дзясятак гадоў. І «Калевала» — шостая кніга, якую мы зрабілі разам. Дагэтуль была дзіцячая літаратура, проза, біяграфіі, успаміны. Мне пашчасціла выдаць самы вялікі музычны твор — партытуру «Рагнеды», самы вялікі лексікаграфічны твор — «Вялікі слоўнік беларускай мовы», што змяшчае больш як 220 тысяч слоў. А сёння мы маем самы вялікі вершаваны твор у перакладзе на беларускую мову. Сем гадоў мы ішлі да падрыхтоўкі «Калевалы», і я вельмі шчаслівы, што праект адбыўся.

Спадар Зміцер выказаў таксама спадзяванне, што гэты эпас, загучаўшы па-беларуску, арганізуе і нашых літаратараў. Яны таксама змогуць скампанаваць у адзін твор найбагацейшы беларускі фальклор, ужо сабраны даследчыкамі і выдадзены ў серыі «Беларуская народная творчасць», шматлікіх зборнікаў казак, легенд, паданняў.

Перакладчык Якуб Лапатка, які стала жыве ў Фінляндыі і завітаў на радзіму толькі на некалькі дзён, распавёў:

— Працаваць над перакладам я пачаў досыць даўно. Працэс ішоў вельмі павольна. Я то набліжаўся да паэмы, то адыходзіў ад яе. Але момантам ісціны стала гутарка з маім знаёмым, які сказаў: «Ты перакладаеш «Калевалу» на беларускую? Навошта? Ёсць жа рускі пераклад». Мне ж вельмі хацелася, каб «калевальцы» загаварылі па-беларуску. Некалі Марцін Лютэр, перакладаючы Біблію, казаў: «Як цяжка прымусіць старажытных яўрэяў размаўляць па-нямецку!» Я таксама дадам: прымусіць старажытных фінаў гутарыць па-беларуску — не так проста. Бо мова «Калевалы» — старая, адрозніваецца ў граматыцы, фанетыцы, правапісе ад сучаснай фінскай. Часам даводзілася расшыфроўваць некаторыя моманты, таму, калі сумняваўся ў правільнасці свах здагадак, звяртаўся да перакладаў паэмы на іншыя даступныя мне мовы. Але, натуральна, працаваў у асноўным з фінскай і беларускай.

Па меркаванні Якуба Лапаткі, пераствараючы твор на іншай мове, перакладчык павінен адчуваць сімпатыю да герояў, пра якіх ідзе расповед. Спадар Якуб прызнаўся, што не змог скончыць пераклад «Дон Кіхота» Сервантэса, бо замест насмешкі з галоўнага героя ён адчуваў да яго шкадаванне. Але калевальцы выклікалі ў яго зусім іншыя пачуцці:

— Я сам з глухой беларускай вёскі, што на Расоншчыне. Да яе вельмі цяжка сёння даехаць. А калі працаваў над перакладам «Калевалы», то пазнаваў у яе героях сваіх аднавяскоўцаў: дзевак, мальцаў, мудрацоў, зухаў. Можна заўважыць яшчэ адну адметнасць. Усе эпасы свету гераічныя, у іх смелыя і адважныя мужчыны бяруць меч у рукі і гатовыя змагацца. Але ў Фінляндыі іншы падыход. Нават кананічная кніга пра Другую сусветную вайну распавядае гісторыю простага салдата. Мне падалося, што і «калевальскія» героі — таксама «звычайныя салдаты»: сяляне, кавалі, пастухі. Яны робяць сваю справу без істэрычных заклікаў, усклікаў, але робяць добра. Працуюць для сваёй сям'і, зямлі, радзімы. Таму да ўсіх герояў я ставіўся з вялікай сімпатыяй і павагай. Я з імі пасябраваў.

Падчас прэзентацыі гэтае сапраўды ўнікальнае выданне было перададзенае ў фонды Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Адметна, што ў галоўнай кніжніцы краіны ўжо захоўваюцца пераклады «Калевалы» на іншыя мовы.

Дарэчы, у 2013-м англа-саксонскі эпас «Бэўвульф», перакладзены на беларускую мову Антонам Францішкам Брылём і выдадзены Зміцерам Коласам, быў названы лепшай кнігай года. Думаецца, што і «Калевала» ў перакладзе Якуба Лапаткі сёлета зойме адну з верхніх пазіцый спісаў найлепшых кніг.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*На паліцы*

# Сваё месца ў літаратуры

## 14 празаічных твораў — па-беларуску і па руску

Другі выпуск «Літаратурнага альманаха» пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда». Зборнік склалі творы пераможцаў II Міжнароднага літаратурнага конкурсу маладых беларускіх і расійскіх літаратараў Саюзнай дзяржавы «Мост Дружбы». Гэтае творчае спаборніцтва для пісьменнікаў-пачаткоўцаў ужо становіцца добрай традыцыяй і сведчыць пра падтрымку, што аказвае новаму пакаленню аўтараў Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы.

Таму ў сваім прывітальным слове ва ўступе да альманаха Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота заўважыў: «Падрастае новае пакаленне людзей, якія спрабуюць свае сілы ў літаратурнай творчасці. Нехта з іх, хочацца верыць, праз гадоў дзесяць — дваццаць стане вядомым, праславіць сваю краіну. Але ў пачатку гэтага шляху іх трэба падтрымаць».

Так, паводле палажэння, конкурс «Мост Дружбы» арыентаваны на пошук і падтрымку маладых таленавітых літаратараў, прыцягненне іх увагі да гісторыі і культуры, развіццё традыцый прыгожага пісьменства Беларусі і Расіі. У склад журы сёлета ўваходзілі прафесійныя літаратуразнаўцы, пісьменнікі, выкладчыкі, выдаўцы, перакладчыкі, якія ацэньвалі творы па цэлым шэрагу крытэрыяў. Экспертны савет высока ацаніў конкурсныя работы, зазначыўшы, што сёлетнія пераможцы маюць шанс знайсці сваё месца ў літаратуры, ужо зараз яны тонка адчуваюць і ўмела выкладаюць думкі на паперы.




«Літаратурны альманах» дае магчымасць чытачу пазнаёміцца з 14 новымі творцамі (па 7 з Беларусі і Расіі), натуральна, праз тэксты. Да ўдзелу ў конкурсе «Мост Дружбы» прымаліся празаічныя творы на беларускай і рускай мове, а для публікацыі ў альманаху кожны з іх перакладзены на мову-суседку. Таму мы маем па 14 празаічных твораў — па-беларуску і па-руску.

Думаецца, імёны празаікаў — пераможцаў і ўдзельнікаў конкурсу, прадстаўленых у альманаху, — яшчэ зусім новыя для чытача, бо творцы толькі пачынаюць сваю дарогу. Але ўжо сёння варта прыглядзецца да іх першых тэкстаў, магчыма, праз некалькі гадоў яны напішуць вялікія аповесці ці нават раманы. Таму звярніце ўвагу на расійскіх пісьменнікаў-пачаткоўцаў Яўгена Капусціна, Ілью Луданава, Георгія Фаміна, Ірыну Іваннікаву, Марыю Пярвушыну, Лізавету Ражкову, Юлію Багданаву. І беларускіх — Кацярыну Фядотаву, Вікторыю Сінюк, Алёну Папко, Андрэя Дзічэнку (дарэчы, конкурс — зусім не дэбют для гэтага творцы: яго проза публікавалася ў беларускім часопісе «Маладосць», а таксама выйшла сёлета асобнай кнігай), Аляксея Старухіна, Таццяну Захаранка, Вячаслава Котава.

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Легенды «ў трэндзе»

**Гісторыя пра адважнага і грознага, нібы тыгр, Чока-Мора з Замор’я, што мусіць заняволіць усіх звяроў у лесе, інструкцыя да цудоўнага апарата па чытанні думак, сакрэты ўціхамірвання Гарынparam і выкрыцця Сіняй Барады — усё гэта і не толькі змясцілася пад вокладкай тварэння Эдуарда Скобелева «Чароўныя акуляры». Кніга, якая выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», уключае набор арыгінальных паэтычных казак, паданняў, што адсылаюць да часоў адважных князёў і магутных дынастый, рамантычных, мудрых, авеяных таямніцамі легенд пра пракаў і воінаў, прадказальнікаў і дзівосных жывёл.**




Гэтая кніга падыходзіць як малым, так і больш дарослым, скажам, гадоў чатырнаццаці. Як жа так? Аўтар сам растлумачыць. «Пісаць для дзяцей і падлеткаў — надзвычай адказная справа», — упэўнены ён. Свет і так поўны пагроз, так што дзіцячы пісьменнік павінен распавядаць, у першую чаргу, не пра жахі, а пра ўсё добрае, што ў ім ёсць, захоўваючы ў душы чытачоў стан гармоніі і дабрыні. Эдуард Скобелеў заклікае не дзяліць дзіцячую літаратуру па ўзростах менавіта таму, што ў тэксце кожны засвойвае перш за ўсё тое кола ісцін, якое яму ў нейкай ступені ўжо вядомае.

Праз казку Эдуард Скобелеў дапамагае знайсці жыццёвыя арыенціры, разабрацца ў сабе і зразумець іншых. Не, гэта не дапаможнік па псіхалогіі і не зборнік маральных догмаў, а захапляльнае чытанне з цікавымі сюжэтнымі паваротамі — актуальнае ў любы час.

Першая частка пад назвай «Знайсці ў іншых сябе» ўключае трыа з казак, легенд і быляў. Эдуард Скобелеў не без дапамогі чараўніцтва тлумачыць, чаму так важна памятаць пра свае мінулае — традыцыі, лад жыцця, подзвігі, звычкі і вераванні продкаў, тых, з каго пачыналася жыццё на зямлі.

Быль пра хлопчыка і карадагскі каменьчык, які прыйшоў з царства мар, — гэта падарожжа ў маленькі пасёлак побач з Чорным морам і гарой Кара-Даг, дзе гранаты і арэхі растуць на дрэвах гэтак жа звычайна, як у нас — слівы з яблыкамі. Эдуард Скобелеў увогуле майстар лірычных пейзажных замалёвак, якія гарманічна дапаўняюць атмасферу фантастычных сюжэтаў. Герой, які вандруе па зорным небе і палацах з самацветаў, даведваецца пра карысць працы. Хлопчык, якому сустрэўся гном у чырвоным каўпаку і конь з залатой грывай, пачынае расці. Многія творы напісаны на аснове народных казак як Беларусі, так і іншых краін — Літвы, Японіі, Францыі.

Галоўная думка другой часткі кнігі — «знайсці ў сабе іншых». Тут аўтар прапануе чытачам байкі, балады і паданні, сучасныя і старадаўнія прытчы. У гэтым раздзеле больш самааналізу, псіхалогіі, маралі. Дакладней, яна проста не так схаваная за казачнай заслонай. Хоць героі твораў і фантастычныя: гаворка ідзе пра звяраў, якія свабодна балбочуць адзін з адным, ходзяць па гасцях і музеях, прадказваюць будучыню, сочаць за модай і вяшчаюць з трыбун. Вядома, што гэта — праекцыя на людзей. Дзіця зразумее інтуітыўна — яму нават тлумачыць нічога не прыйдзецца. Эдуард Скобелеў стараецца адчуць тое, што патрэбна дзіцяці ў пэўны момант і можа яго зацікавіць. А яшчэ аўтар выдатна дасведчаны ў гісторыі, таму шчодра дзеліцца ўнікальнымі ведамі.

# Цёплы снег і кветкі з галавы

**Ці ведалі вы, што на іншай планеце жывуць дабрадушныя істоты са скурай, пакрытай каляровымі кратарамі, яны катаюць маленькіх дзяцей на хобаце і любяць паветраныя шары? Можа, раптам уяўляеце, што зімой з неба падаюць не толькі сняжынкі, а шчыры дзіцячы смех? Бярыце вялізны мяшок і рыхтуйцеся лавіць смяшынкі! Заадно яшчэ і вецер маляваць навучыцеся. Кніга Уладзіміра Мазго «Сланы з Луны» — гэта палёт бязмежнай фантазіі аўтара, дапоўнены выдатным гумарам і практычнымі парадамі на ўсе выпадкі жыцця.**




Зборнік вершаў, казак, скорагаворак і каламбураў, які выйшаў у Выдавецкім доме «Звязда», дапаможа дзеткам хутка асвоіць навуку пісьменнай, мілагучнай і стылістычна багатай гаворкі — дакладнасць рыфмаў і набор амаль што самых распаўсюджаных слоў у тэкстах гэтаму паспрыяе.

Пацешна абыгрывае аўтар словы, якія могуць здацца малышам дзіўнымі: «акуліст» сугучны з «акулай», графін, па дзіцячай логіцы, павінен быць мужам графіні... Вельмі важна як мага раней растлумачыць малому сэнс двухзначных слоў, каб не дапусціць непаразуменняў у будучыні. Ды і, у рэшце рэшт, гэта проста весела — можна ж пагуляць у асацыяцыі. Паэт прапануе выдатную ідэю, чым можна заняць напаседу як мінімум на пару вечароў.

Уладзімір Мазго прыводзіць шмат забаўных і мілых гісторый з жыцця жывёл, насякомых і птушак: котка, якая ўмее вытвараць сальта, аса, што заблыталася ў валасах… Аўтар выступае для дзяцей нядрэнным педагогам: у лёгкай гульнявой манеры ён тлумачыць, напрыклад, чаму вітаміны — жыццёва важная частка штодзённага рацыёну, а кнігі часам больш карысныя за інтэрнэт.

Сітуацыі, апісаныя ў зборніку, — непасрэдна з жыцця. Акрамя таго, Уладзімір Мазго разам з чытачамі падарожнічае па Беларусі, называючы гарады і мястэчкі, азёры і рэкі, а яшчэ — тонка, нібы мастак, апісвае прыродныя з'явы.

Скорагаворкі, каламбуры і анаграмы, а таксама маленькія вершаваныя казкі пісьменніка наводзяць на думку аб тым, што можна і самому тварыць, бо словы — на дзіва пластычны і падатлівы матэрыял! Галоўнае — натхненне, якое можна, дарэчы, чэрпаць з добрых кніг.

Зборнік «Сланы з Луны» быў бы няпоўным без ілюстрацый Рыты Цімохавай — яе дрэў і кветак, якія растуць прама на галаве, гіганцкіх пухнатых звяркоў, пірожных-капялюшыкаў, вясёлак-раскладанак і цёплага снегу, пад пушынамі якога можна спакойна спаць. А як жа казкі на ноч? Яны ў кнізе таксама ёсць!

**Марыя ВОЙЦІК**

# Самае галоўнае

Амаль у кожнага з нас у дзяцінстве быў асабісты дзённік — з фігурным замочкам, залатымі літарамі, прыгожым малюнкам на вокладцы альбо, наадварот, у шэрым, незаўважным, патрапаным сшытку, такім, каб ніхто не знайшоў. Не хочаце зазірнуць у таямніцу жыцця адной маленькай дзяўчынкі? Хутчэй за ўсё, вы пазнаеце ў ёй сябе… Усіх людзей, асабліва маленькіх, аб'ядноўваюць падобныя праблемы, перажыванні, клопаты. Зразумеўшы іншых, можна разабрацца ва ўласным жыцці. Гэта нескладана. Трэба проста слухаць. Кніга Таццяна Сівец «Самы лепшы падарунак», што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», той самы маяк-арыенцір, які дапамагае адказаць на многія пытанні сваёй душы — прычым як у дзіцячым, так і ў дарослым стане.




Многае, што тычыцца нас цяпер, утойваецца ў мінулым, у зацішных кутках памяці. Кніга, пра якую ідзе гаворка, — яркае таму пацвярджэнне. «Самы лепшы падарунак» — гэта магчымасць апынуцца ў свеце аднаго з выгляду маленькага, але ўжо моцнага духам чалавека. Танечка любіць сваіх маму і тату, ходзіць у дзіцячы сад, прыдумляе фантастычныя гісторыі і верыць у тое, што цуды існуюць. У яе сапраўды ёсць чаму павучыцца. Нават дарослым. Памятаеце пачуццё, калі хочаш вялікую ляльку альбо сабаку, а бацькі дораць важкую энцыклапедыю ці набор фламастараў? Але ты ў імгненне забываешся на гэта, калі самыя блізкія людзі сварацца: хтосьці сыходзіць з дому, а хтосьці плача… Тады, як бы ні хацелася дарагіх цацак і іншых радасцей, просіш у вышэйшых сіл аднаго — захаваць сям'ю.

У кніге ёсць нешта блізкае, тое, што абавязкова адгукаецца ў сэрцы. Як і ўсе дзеці, Таня марыць хутчэй вырасці, увесь час паўтараючы для большай пераканаўчасці: «Калі я была дарослай...». Вам смешна, а яна ўпэўненая, што калі пажадаць, то хутчэй дасягнеш таго ўзросту, калі можна ўсё: уставаць рана, хадзіць на працу, купляць рэчы, якія хочаш.

Кніга Таццяны Сівец прасякнута светлым, добрым гумарам, неверагоднай атмасферай сумесі рэальнасці і казкі. Лялечнае каралеўства паўстае перад вачыма адразу ж пасля звычайнага дзіцячага пакоя.

«Дарэчы, сябры — гэта тое, дзеля чаго варта хадзіць у садок, нават нягледзячы на кашу...» — лічыць Танечка. Дзіцячыя будні насычаны ў кнізе смешнымі і кранальнымі сітуацыямі — напрыклад, узняццем настрою з дапамогай намотвання на галаву макарон ці ўменнем стварыць залатую рыбку са звычайнага жоўтага пялёстка ад хрызантэмы!

У кнізе Таццяны Сівец малыя не сядзяць цэлымі днямі за камп'ютарамі, а гуляюць на свежым паветры. Так ярка апісвае пісьменніца іх прыгоды, што хочацца самому выбегчы на цёплы панадворак і паганяць у футбол, а можа, нават пазнаёміцца з Люстраной Паненкай і знайсці рыцара, які яе ўратуе. Дзіцячыя перажыванні такія жывыя, што, здаецца, адчуваеш усё нанова — крыўду і боль, калі сварацца бацькі, спакой побач з бабуляй і яе любімымі серыяламі, смак сунічных блінчыкаў з варэннем... Шкада, што нічога ў свеце не вечна, а мы так рэдка цэнім кожную хвіліну. «Самы лепшы падарунак» — гэта не проста дзіцячая кніга, а філасофская прытча. Інакш не наварочваліся б слёзы — зразумела ж, ад шчасця, адчування таго, што ты жывеш!

# Навінкі кнігавыдання



***Бучынская, Н. С. Атракцыёны для вадзянікоў: былі і небыліцы пра жыццё надводнае і падводнае / Наталля Бучынская; [ілюстрацыі Андрэя Пазняка]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015. — 78 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-02-1499-7 (у пер.).***

*На дне самага глыбокага возера Беларусі жыў Вадзянік. Доўга кіраваў ён сваёй падводнай гаспадаркай, сябраваў з Лесавіком, сачыў за парадкам. Але аднойчы Вадзянік зразумеў, што стары зусім стаў, стаміўся так шмат працаваць. А тут якраз і памочнік з'явіўся — Вадзянічок, выпускнік спецыяльнай акадэміі. Але што здарыцца ў возеры, калі Вадзянік пойдзе ў госці да Лесавіка? Ці справіцца Вадзянічок з адказнасцю? Усе адказы, а таксама мноства карысных звестак пра азёры Беларусі — у новай кнізе Наталлі Бучынскай.*

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Абрамцева, Н. К.** Тропинка: [сказки: для младшего и среднего школьного возраста] / Наталья Абрамцева; [художник Марта Геращенко]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 15 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-735-4 (ошибоч.).

**Детям о бабушке:** [притчи, рассказы и стихи: для младшего и среднего школьного возраста / составитель Велько Александр Владимирович; художник Т. Е. Кудина]. — 2-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 61 с. — 3000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-511-680-7 (ошибоч.).

**Детям о дедушке:** [притчи, рассказы, стихи: для младшего и среднего школьного возраста / составитель Велько Александр Владимирович; художник Е. А. Покалицына]. — 2-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 61 с. — 3000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-511-679-1 (ошибоч.).

**Детям о Рождестве:** [произведения классических и современных писателей: для младшего и среднего школьного возраста / составитель Велько Александр Владимирович; художник Т. Е. Кудина]. — 3-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 61 с. — 3000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-511-777-4.

**Капустюк, Н. К.** Маму за руку веду: [стихи: для младшего и среднего школьного возраста] / Наталья Капустюк; [художник Людмила Баирова]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 15 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-797-2.

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Авласенко, Г. П.** Пещера: [фантастический роман: для учащихся старших классов] / Геннадий Авласенко. — Минск: Беларусь, 2015. — 429 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-01-1117-3 (в пер.).

**Дюймовочка:** балет-сказка: [для семейного чтения] / либретто [Татьяны Шпартовой; фотографии: И. А. Бортник]. — Минск: Белорусский республиканский литературный фонд, 2015. — 31 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6975-31-1.

**Сказка про Фею и доброго Дельфина.** — 8 с. — 7500 экз.

**Чекед, Т. М.** 100 загадок для ребят / Татьяна Чекед. — Гомель: Барк, 2015. — 39 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7065-33-2.

### Беларуская літаратура

**Давідовіч, С. Ф.** Дзедава жалейка: казкі і прыгоды / Сяргей Давідовіч; [мастак Сяргей Волкаў]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015. — 95 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1636-6 (у пер.).

**Чарняўскі, М.** З думкай пра Беларусь, альбо Ёсць дзіва, адвечнае дзіва...: апавяданні, вершы, загадкі: [для сярэдняга школьнага ўзросту] / Мікола Чарняўскі. — Мінск: Народная асвета, 2015. — 118 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-03-2378-1.

**Шамякін, І. П.** Цуд на краі свету: апавяданні / Іван Шамякін. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015. — 77 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1609-0 (у пер.).

**Шах, С. М.** Мару стаць я мастаком: вянок вянкоў санетаў: [для малодшага школьнага ўзросту] / Соф'я Шах; [мастак Дар'я Чупрыс]. — Мінск: Звязда, 2015. — 158 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7083-48-0 (у пер.).

### Тэорыя літаратуры. Вывучэнне літаратуры

**Довнар, Л. А.** Литературное чтение: 3-й класс: задания для учащихся: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: в 2 ч. / Л. А. Довнар. — 4-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — ISBN 978-985-574-177-1.

Ч. 1. — 2015. — 81 с. — 1613 экз. — ISBN 978-985-574-244-0.

**Красницкая, А. В.** Тематический контроль по литературному чтению: 3-й класс: практикум для учащихся учреждений общего среднего образования / А. В. Красницкая. — 3-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 22 с. — 1613 экз. — ISBN 978-985-574-246-4.

**Красницкая, А. В.** Тематический контроль по литературному чтению: 4-й класс: практикум для учащихся учреждений общего среднего образования / А. В. Красницкая. — 3-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 21 с. — 1613 экз. — ISBN 978-985-574-247-1

**Проблемы национального глазами Старого и Нового света:** сборник научных статей: в 2 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Минский государственный лингвистический университет; под редакцией Ю. В. Стулова. — Минск: МГЛУ, 2015. — ISBN 978-985-460-647-7.

Ч. 1. — 2015. — 203 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 100 экз. — ISBN 978-985-460-648-4.

**Украінская літаратура:** хрэстаматыя: у 5 ч.: вучэбны дапаможнік для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі па філалагічных спецыяльнасцях. — Мінск: БДУ, 2005. — ISBN 978-985-485-297-5. — ISBN 985-485-297-0 (памылк.).

Ч. 3: Паэзія, драматургія, проза канца XIX — першай трэці XX ст. / [складальнікі: Т. В. Кабржыцкая, П. І. Навойчык, Э. Ю. Дзюкава]. — 2014. — 559 с. — Частка тэксту на ўкраінскай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-566-118-5 (у пер.).

### Беларуская літаратура

**Загурская, А. Л.** Літаратурнае чытанне: рабочы сшытак: 2-гі клас устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання / А. Л. Загурская, Т. А. Няборская. — 4-е выд. — Мінск: Пачатковая школа, 2015. — 96 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-565-160-5.

**Шумская, І. М.** Ян Баршчэўскі: збіральнік народных легенд і паданняў / Ірына Шумская. — Мінск: Харвест, 2015. — 63 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3618-1.

**Юрэвіч, Л.** Відымусы / Лявон Юрэвіч. — Мінск: Лімарыус, 2015. — 177 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6968-43-6.

## ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Краязнаўства

**Гарады і вёскі Беларусі:** энцыклапедыя / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2004. — ISBN 985-11-0302-0. — ISBN 978-985-11-0302-3 (у пер.).

Т. 9: Гродзенская вобласць, кн. 1 / ... Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры...; [пад навуковай рэдакцыяй А. І. Лакоткі]. — 2015. — 654 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0839-4.

**Гарковенко, Н. И.** Летописи поселка Колодищи в лицах и судьбах людских / [Гарковенко Нина Ильинична]. — Минск: Энциклопедикс, 2015. — 282 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7090-41-9 (в пер.).

**Махначова, Г. І.** Мая Радзіма – Беларусь: 4-ты клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі / Г. І. Махначова. — 2-е выд. — Мазыр: Белы Вецер, 2015. — 94 с. — 1613 экз. — ISBN 978-985-574-243-3.

**Оттиски незабытой земли:** альбом-путеводитель по возрождаемым после аварии на Чернобыльской АЭС районам Республики Беларусь / Департамент по ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь; [автор идеи и руководитель проекта: З. И. Трафимчик; составители: И. М. Савченко и др.]. — Минск: Институт радиологии, 2014. — 105 с. — Часть текста на белорусском языке. — 1050 экз. — ISBN 978-985-7003-59-4.

**Падліпскі, А.** Аляксей Сапуноў: гісторык і краязнаўца Віцебшчыны / Аркадзь Падліпскі. — Мінск: Харвест, 2015. — 63 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3621-1.

**Саевич, Ф. К.** К 75-летию организации Белорусского государственного заповедника "Беловежская пуща" (Постановление СНК СССР № 1234 от 25.12.1939 г.) / Ф. К. Саевич. — Минск: Бизнесофсет, 2015. — 124 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6939-86-3.

### Гісторыя

### Гістарычная навука. Гістарыяграфія

**Груша, А. І.** Альбом палеаграфічных здымкаў: (з электронным дадаткам): дапаможнік для студэнтаў, якія навучаюцца па спецыяльнасцях 1-21 03 01 "Гісторыя (па напрамках)", 1-23 01 13 "Гісторыка-архівазнаўства" / А. І. Груша, А. М. Латушкін; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. — Мінск: БДУ, 2014. — 103 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-566-088-1. — ISBN 978-985-566-106-2 (CD-ROM ).

**Калечиц, И. Л.** Практикум по вспомогательным историческим дисциплинам: палеография, геральдика, хронология, ономастика: пособие для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальностям: 1-02 01 01 История; 1-02 01 02 История. Дополнительная специальность / И. Л. Калечиц; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный педагогический университет им. Максима Танка. — 2-е изд., исправленное и дополненное. — Минск: БГПУ, 2015. — 155 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-541-243-5.

**Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны:** навуковы зборнік. — Мінск: БДУ, 2002. — Заснаваны ў 2002 г. — ISSN 1995-5650.

Вып. 9 / [рэдкалегія: С. М. Ходзін (адказны рэдактар) і інш.]. — 2014. — 270 с. — Частка тэксту паралельна на рускай і англійскай мовах. — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз.

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Российские и славянские исследования: научный сборник.** — Минск: БГУ, 2004. — Основан в 2004 г. — ISSN 1995-5634.

Вып. 9 / Белорусский государственный университет; [редколлегия: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. ред.) и др.]. — 2014. — 349 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 100 экз.

### Гісторыя Беларусі

**Анищенко, Е. К.** Шляхта Речицкого повета: список XVIII ст. / Евгений Анищенко. — Минск: Виктор Хурсик, 2015. — 296 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7025-40-4.

**Баландзін, К. І.** Гісторыя Беларусі ў кантэксце сусветнай цывілізацыі: дапаможнік для студэнтаў спецыяльнасцей тэхнічнага і тэхналагічнага профіляў адукацыі / К. І. Баландзін, Дз. М. Хромчанка; пад рэдакцыяй У. А. Бажанава; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт, Кафедра "Гісторыя, сусветная і айчынная культура". — Мінск: БНТУ, 2015. — 215 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-550-219-8.

**Беларусь і цюркска-ісламскі свет:** з нагоды 615-годдзя ўзнікнення татарска-мусульманскай супольні на землях ВКЛ: зборнік навуковых прац / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, Філіял "Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы"; [укладанне і прадмова: І. А. Сынкова, М. У. Тарэлка]. — Мінск: Беларуская навука, 2015. — 153 с. — Частка тэксту на англійскай і рускай мовах. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1800-3.

**Беларусь: памятное лето 1944 года:** материалы международной научно-практической конференции, посвященной 70-летию освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков (Минск, 19–20 июня 2014 г.) / [редколлегия: А. М. Литвин (ответственный редактор) и др.]. — Минск: Беларуская навука, 2015. — 567 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1802-7 (в пер.).

**Близнец, Г. И.** Организация и контроль самостоятельной работы студентов по обязательному модулю "История": учебно-методическое пособие: [для студентов] / Г. И. Близнец, Н. А. Рябцева; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет транспорта, Кафедра "Философия, история и политология". — Гомель: БГУТ, 2015. — 154 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-554-380-1.



***Петрушкевіч, А. М. Старонкі Гарадзеншчыны літаратурнай / Ала Петрушкевіч. — Гродна: ЮрСаПрынт, 2015. — 368 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-6743-62-28 (памылк.).***

*Гародня і Гарадзеншчына заўсёды вылучаліся на літаратурнай карце нашай краіны. Тут жылі і працавалі адметныя пісьменнікі. Старажытнымі будынкамі і прыгожымі пейзажамі Нёмана, Шчары натхняліся паэты. Ды і сам каралеўскі горад неаднаразова станавіўся месцам дзеяння раманаў, аповесцей, паэм. Таму невыпадкова даследчыца і пісьменніца Ала Петрушкевіч ужо шмат гадоў вывучае менавіта гарадзенскія старонкі нашай літаратуры. Героямі эсэ, па-жаноцку мяккіх, цёплых і шчырых, але ў той жа час лаканічных і трапных, сталі Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, Данута Бічэль, Эліза Ашэшка, а таксама многія іншыя знакамітыя творцы, чый лёс звязаны з гэтымі мясцінамі.*

**Гісторыя Беларусі:** палемічныя матэрыялы / [М. А. Багушэвіч і інш.]; пад рэдакцыяй Я. К. Новіка. — Мінск: Вышэйшая школа, 2015. — 302 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Аўтары таксама: Быкаў А. М., Герасімовіч П. С., Грабёнкіна Г. А., Далгатовіч Б. Д., Дамарад К. І., Дарафеенка Н. І., Жураўскі А. І., Залескі А. І., Касцян С. І., Малашка А. М., Новік Я. К., Петрыкаў П. Ц., Філімонаў А. А., Хахлоў А. Г. — 600 экз. — ISBN 978-985-06-2061-3 (у пер.).

**Гордость земли белорусской** = *Pride of the Belarusian Land*: [биографии соотечественников, оставивших яркий след в истории человечества / составитель С. В. Пешин; перевод на английский язык: А. В. Волосач]. — Минск: Беларусь, 2015. — 58 с. — Текст параллельно на русском и английском языках. — 4000 экз. — ISBN 978-985-01-1118-0.

**Города воинской славы Минской области** / [составители: Белоусов Владимир Петрович, Кулан Иван Николаевич]. — Минск: Белпринт, 2014. — 231 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-459-346-3 (в пер.).

**Паноў, С. В.** Мая Радзіма —Беларусь: 4-ты клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання: дадатак да падручніка "Чалавек і свет. Мая Радзіма — Беларусь" для 4-га класа (аўтары: С. В. Паноў [і інш.]) / С. В. Паноў. — 4-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2015. — 64 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-19-1538-1.

**Сасим, А. М.** История Беларуси: 11-й класс: ответы на билеты: [для подготовки к экзаменам] / А. М. Сасим. — Минск: Экоперспектива, 2015. — 197 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-469-462-7.

### Мастацкая літаратура на асобных мовах

### Італьянская літаратура

**Дилан Дог.** По ту сторону зеркала: [книга комиксов / перевел с итальянского Денис Пугач; автор идеи и сценария: Тициано Склави; художник Джампьеро Казертано]. — Пинск: Пугач Д. М., 2014. — 98 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-90341-4-5.

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Агеев, Н. С.** В родимом краю: лирика / Николай Агеев. — Витебск: Витебская областная типография, 2015. — 127 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-534-072-1.

**Адамович, А.** Война под крышами: [роман] / Алесь Адамович. — Минск: Мастацкая літаратура, 2015. — 238 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1663-2 (в пер.).

**Алексина, Л. Г.** Новогодний сюрприз: романтический детектив / Лана Алексина. — Минск: А. Н. Вараксин, 2015. — 262 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7092-94-9.

**Амуров, Г. Л.** Ассур: роман: в 3 ч. / Глеб Амуров; [автор введения: Наталья Коноплич]. — Мозырь: Колор, 2015. — 374 с. — 90 экз. — ISBN 978-985-6830-67-2 (в пер.).

**Антонова, Л. Н.** Останься человеком: сборник стихов / Л. Н. Антонова; [художник: Васюченко Анастасия Андреевна]. — Минск: Ковчег, 2014. — 278 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7086-72-6.

**Атавина, Ж. В.** Любовь: эссе / Жанна Атавина. — Минск: А. Н. Вараксин, 2015. — 34 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-90-1.

**Беларусова, И. В.** Белым ангелом снег прилетел: стихи / Ирина Беларусова. — Минск: А. Н. Вараксин, 2015. — 107 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-7092-97-0.

**Болтрукевич, Н. И.** Подари мне немного тепла...: избранное / Надежда Болтрукевич. — Минск: А. Н. Вараксин, 2015. — 147 с. — Часть текста на белорусском языке. — 30 экз. — ISBN 978-985-7092-96-3 (в пер.).

**Бондаренко, Л. Д.** За Честь и Отечество: [70 лет Великой Победы, 1941–1945: стихи] / Людмила Бондаренко. — Минск: Ковчег, 2015. — 158 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-35-9 (в пер.).

**Брусников, Б. Н.** Звезда последнего накала: [книга стихов и песен] / Борис Брусников. — Минск: Энциклопедикс, 2015. — 134 с. — 112 экз. — ISBN 978-985-7090-42-6 (в пер.).

**Бычковская, Т. В.** Я жить без тебя не могу...: [стихи] / Тамара Бычковская. — Минск: Ковчег, 2015. — 95 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-44-1.

**Василевский, Н. А.** Свист со "вкусом" апельсинок: повесть, рассказы / Николай Василевский. — Минск: Литературный свет, 2015. — 164 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-6943-31-0.

**Воронин, А. Н.** Слепой. Человек в черном: [ставка на победу: роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2015. — 319 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3684-6 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Слепой. Я не сдамся без боя!: [ставка на войну: роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2015. — 319 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3685-3 (в пер.).

**Горошко, В. В.** Не забыть о главном: сборник стихотворений / Валерия Горошко. — Минск: Позитив-центр, 2014. — 58 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6983-50-7.

**Гутько, И. П.** Цените то, что имеете!: сборник стихов и афоризмов / И. П. Гутько. — Несвиж: Несвижская типография, 2015. — 100 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7078-17-2.

**Казанцева, Е. В.** Ветер чужой = *Wiatr z obcych stron* / песни Елены Казанцевой; авторы переводов: Юстына Бач [и др.]; запись нот: Рене Коельблен; иллюстрации: Елена Зданевич. — Минск: Медыял, 2014. — 117 с. — Часть текста параллельно на русском и польском языках. — Часть текста на польском языке. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6914-15-0 (в пер.).

**Кеник, А. А.** Витязь "Святой Руси" и Муза: поэма / Андрей Кеник; [предисловие Т. Н. Дасаевой]. — Минск: Кнігазбор, 2015. — 135 с. — 80 экз. — ISBN 978-985-7119-47-9.

**Кикель, П. В.** Гармония бытия: [поэтический сборник] / П. В. Кикель. — Минск: Право и экономика, 2015. — 317 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-552-391-9.

**Короленко, А. З.** От судьбы не уйдешь: рассказы, сказки, песни / Анатолий Короленко. — Минск: Ковчег, 2015. — 86 с. — Часть текста на белорусском языке. — 500 экз. — ISBN 978-985-7121-28-1.

**Курисюк, А. Л.** Один лист из книги жизни: роман / А. Л. Курисюк. — Брест: Альтернатива, 2015. — 370 с. — 100 экз. — В переплете. — ISBN 978-985-521-479-4 (ошибоч.).

**Лазарев, В. С.** И воды, которые превыше небес: роман / В. С. Лазарев. — Минск: А. Н. Вараксин, 2015. — 411 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7092-89-5 (в пер.).

**Левина, Г. Н.** Годы наши – опавшие листья...: стихи / Галина Левина; [редколлегия: Драгун С. И., Евланова С. Н.]. — Речица [т. е. Минск]: Ковчег, 2015. — 91 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-7121-59-5.

**Манейкин, С. В.** Сон: поэма / Сергей Манейкин. — Минск: А. Н. Вараксин, 2015. — 223 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7092-98-7 (в пер.).

**Меркуль, Н. В.** С любовью в сердце: [лирические стихи] / Меркуль Надежда Васильевна. — Минск: Энциклопедикс, 2015. — 80 с. — 20 экз. — ISBN 978-985-7090-49-5.

**Мороз, С. В.** Пусть в сердце горит огонек: [стихи] / Софья Мороз. — Минск: Ковчег, 2015. — 54 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-48-9.

**Орделова, А. Б.** Дальняя дорога: [стихи] / Анна Орделова. — Минск: Ковчег, 2015. — 74 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-50-2.

**Павлючук, Р. И.** Протуберанцы памяти: проза, поэзия / Раиса Павлючук; [вступительная статья В. Е. Корбута]. — Минск: Галіяфы, 2015. — 151 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7021-50-5.

**Петров, С. П.** Мейлах в октябре: трагикомедия: киносценарий многосерийного фильма по одноименной повести / Сергей Петров. — Минск: Ковчег, 2014. — 223 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-23-6.

**Петрова, М. Ю.** Рунами по клеверу: сборник стихов / Марина Петрова. — Минск: Медисонт, 2015. — 169 с. — 55 экз. — ISBN 978-985-7085-71-2.

**Победители:** проза, поэзия, публицистика / [составители: Михаил Поздняков, Николай Денисов]. — Минск: Мастацкая літаратура, 2015. — 311 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1661-8 (в пер.).

**Победное "Ура":** сборник поэзии и прозы, посвященный 70-летию Великой Победы / [редколлегия: А. С. Носиков и др.; составители: Ковалев Владислав Петрович, Сивенкова Ирина Николаевна, Извозчикова Светлана Владимировна]. — Могилев: МгГУП, 2015. — 83 с. — Часть текста на белорусском языке. — 113 экз. — ISBN 978-985-6985-26-6.

**Под прицелом войны:** [воспоминания свидетелей и участников Великой Отечественной войны / составление и литературная запись Леонида Емельянова]. — Минск: Четыре четверти, 2015. — 215 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-68-3.

**Рубинштейн, Л. А.** Дети войны = *Children of war*: [очерки и вопоминания бобруйчан] / Леонид Рубинштейн; [перевод на английский язык Ю. Г. Мандрик]. — Минск: Медисонт, 2015. — 158 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 250 экз. — ISBN 978-985-7085-67-5 (в пер.).

**Рудь, А. В.** Я из прошлого века / Антонина Рудь. — Минск: Ковчег, 2015. — 91 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-05-2.

**Сендер, А. Н.** Травы прошлогодние: исповедь анонимного алкоголика, или Сто случаев из жизни трезвого Сообщества / Анатолий Сендер. — Минск: А. Н. Вараксин, 2015. — 343 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7128-04-4 (в пер.).

**Титоренко, И. И.** Хрустальная чаша: стихи / Иван Титоренко. — Минск: Ковчег, 2015. — 79 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-46-5.

**Фадеева, Т. Б.** Интервью с бандитом: сценарий одной судьбы / Татьяна Фадеева. — Минск: Ковчег, 2015. — 142 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7121-36-6.

**Филатова, В. И.** Дорожка рифм...: рифмовки, стихи, посвящения / Валентина Филатова. — Минск: А. Н. Вараксин, 2015. — 123 с. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 200 экз. — ISBN 978-985-7092-82-6.

**Шамякина, Т. И.** Парадоксы времени, или Романтика советской науки: [эссе] / Татьяна Шамякина. — Минск: Четыре четверти, 2015. — 232 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-42-3 (ошибоч.).

**Шевцов, А. Н.** Души мятежной перезвон: (избранное): лирика / Алексей Шевцов. — Минск: Белорусский республиканский литературный фонд, 2015. — 96 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6975-27-4.

**Шевцов, А. Н.** Страх. А все ведь могло быть иначе...: повесть / Алексей Шевцов. — Минск: Белорусский республиканский литературный фонд, 2015. — 245 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6975-28-1.

**Юдицкий, А. М.** Беседа: "Встречи" и "Лица": автографы / Александр Юдицкий. — Брест: Брестская типография, 2015. — 339 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-524-195-0 (в пер.).



***Белы, А. І. Ад Грыўды да Гандвіка: эсэ-ўспаміны / Аляксей Белы. — Мінск: Ковчег, 2015. — 152 с. — 299 экз. — ISBN 978-985-7121-31-1.***

*Аўтар сямі паэтычных зборнікаў, творца з Баранавіч Аляксей Белы здзівіў чытачоў тым, што пачаў працаваць у прозе. Кніга яго ўспамінаў пабачыла свет сёлета. На яе старонках спадар Аляксей распавядае пра сваё жыццё, жыццё яго бацькоў, дзядуляў і бабуль, пра свой пакручасты лёс. Пачатковай кропкай падарожжаў у часе становіцца рака яго дзяцінства — Грыўда, што цячэ ў Івацэвіцкім раёне. Трапляе чытач і на бераг Гандвіка (так скандынавы называюць Белае мора), дзе аўтар праходзіў першую плавальную практыку падчас навучання ў марскім вучылішчы. Але і ў прозе Аляксей Белы застаецца паэтам: часта прыводзіць вершаваныя радкі, а распавед напаўняе неверагоднай лірычнасцю.*

## Штрыхі

# Край майстроў



**Дарогі… Колькі іх было ў маім журналісцкім і пісьменніцкім лёсе! І шыкоўныя аўтабаны, і сціплыя гравейкі, і пакручастыя сцяжыны ды глыбокія каляіны сярод палёў і лясоў. І ўсім я ўдзячны, што прыводзілі мяне да светлых і прыгожых людзей, да цудоўных краявідаў і запамінальных імгненняў роздуму і асалоды.**

Менавіта такія імгненні не раз дарыла мне браслаўская зямля. Высокія пагоркі і запаветныя лясы, чыстыя і глыбокія азёры, якіх тут безліч, — непараўнальна чароўны край.

Памятаю, як мы падымаліся на гару Маяк. Адсюль, бы з верталёта, відаць уся велічная панарама Браслаўшчыны — азёры і лугавіны, магутныя камяні, абрысы храмаў і сялянскія хаты. Дарэчы, адзін з такіх камянёў, што на беразе возера Паўночны Валос, мае вышыню амаль паўтара метра і важыць, як сцвярджаюць мясцовыя жыхары, не менш як трынаццаць — чатырнаццаць тон. У гэтую глыбу, прынесеную ледавіком прыблізна 18 — 20 тысяч гадоў таму, часта б'юць маланкі, бо, паводле старажытнай легенды, сквапны Пярун хоча здабыць клад, закапаны пад валуном.

Там, унізе, дарога віецца і да легендарнай вёскі Слабодка, легендарнай таму, што, здаецца, кожны яе жыхар — незвычайны таленавіты народны майстар. Менавіта ў Слабодцы я сустракаўся і са стваральнікамі ўнікальных саламяных брылёў, і з цудоўнымі майстрамі ткацтва, і з разьбярамі.

У памяці ярка стаяць сустрэчы з Пятром Зяляўскім, чые драўляныя скульптуры сёння ўпрыгожваюць многія музеі і прыватныя калекцыі ў нашай краіне і за яе межамі. Ягоная сядзіба была відаць здалёк, бо перад ёй месцілася цэлая галерэя незвычайных драўляных фігур міфічных істот.

Разьбярствам Пятро Іванавіч пачаў займацца ажно ў семдзесят гадоў, пасля смерці жонкі. Як тлумачыў майстар, вельмі перажываў, што не стала яго палавіны. Выразаў з палена Маці Божую, якая стаіць на змяі, і ўстанавіў каля касцёла. Далей — болей. З'явіліся выявы «Святы Юры Пераможца», «Уцёкі ў Егіпет», «Анёл», «Вершніца». Калі супрацоўнікі мясцовага краязнаўчага музея, у прыватнасці Кастусь Шыдлоўскі, паказалі гэтыя творы спецыялістам, тыя былі ў захапленні.

Незвычайная фантазія аўтара, арыгінальнае выкананне нарадзілі сапраўдныя шэдэўры народнага мастацтва. Увогуле, Пятро Іванавіч быў вельмі каларытнай асобай. Нарадзіўся ў Слабодцы ў сялянскай сям'і. Яго бацька, Янка Зяляўскі, быў вельмі таленавітым майстрам, мог зрабіць уласнымі рукамі любую патрэбную ў гаспадарцы прыладу, вырабіць і музычныя інструменты, на якіх і сам няблага іграў.

Пятро, які пераняў ад бацькі яго майстэрства, пражыў нялёгкае жыццё — службу ў польскай арміі, палон, прымусовыя работы ў Германіі. Там, дарэчы, працаваў у майстэрні, дзе выраблялі мэблю. Там і пачынаў выразаць драўляныя скульптуры. Вярнуўшыся ў родную вёску, жыў нялёгкай сялянскай працай, гадаваў з жонкай дзяцей.

Не чакалі аднавяскоўцы, ды і сам майстар, што яго позняе захапленне выкліча такі ажыятаж. У вёску зачасцілі карэспандэнты, тэлебачанне. А сам Пятро Іванавіч стаў успрымаць гэта як належнае, годна і адкрыта. Ён быў гатовы шчодра дзяліцца з усімі сваім талентам. Дапамагаў мясцоваму касцёлу ўпрыгожваць інтэр'ер, паказваў сваю сядзібу, пазіраваў разам з фігуркамі перад фота- і тэлекамерамі. На мае рэпартажы пра слабодскіх майстроў адгукаліся многія, і мне было радасна, што дапамагаў адкрываць людзям выдатных народных талентаў.

Сёння слабодкаўскія саламяныя брылі можна ўбачыць у строях розных фальклорных калектываў краіны, іх з задавальненнем носяць у спякотнае надвор'е многія мае знаёмыя мастакі і пісьменнікі. А ў далёкія васьмідзясятыя гады мы з сябрамі па наваполацкім літаб'яднанні «Крыніцы» ездзілі па іх у Слабодку да Пятра Карэніка. Спачатку аднавяскоўцы крыху іранічна ставіліся да тых гарадскіх дзівакоў, якія ездзяць да дзеда з заказамі, а потым зразумелі, што такое майстэрства можа прыносіць і пэўны даход.

Але ўсё ж, мне здаецца, не імкненнем зарабіць рухалі і рухаюць творчыя памкненні слабодкаўцаў. Сама прырода роднага краю, жаданне ўбачыць прыгажосць навокал, талент да стварэння, чыстая і светлая, як мясцовыя азёры, музыка душы — вось асноўныя крыніцы натхнення гэтых цудоўных людзей.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

## Нашы рарытэты

# Статут ВКЛ: вяртанне

**Прадстаўленне помнікаў беларускай культуры, вернутых з-за мяжы, — заўсёды свята. Таму і «круглы стол» на тэму «Статуты ВКЛ у замацаванні і развіцці беларускай дзяржаўнасці», што прайшоў у Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь і быў прысвечаны 82-годдзю кніжніцы, стаў асабліва святочным. І не таму, што гэта вельмі важная дата ў жыцці ўстановы, а таму, што менавіта сёлета бібліятэка атрымала ў фонды надзвычай каштоўную кнігу — арыгінал Статута ВКЛ, выдадзены ў 1744 годзе.**



*Фота Кастуся Дробава.*

*Андрэй Радкоў, Зміцер Яцкевіч і Сяргей Квачан прадстаўляюць арыгінал Статута ВКЛ 1744 года выдання.*

Статут быў вернуты ў нашу краіну дзякуючы супрацы студэнта гістарычнага факультэта БДУ Андрэя Радкова і намесніка дырэктара па навуковай рабоце Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж», кандыдата гістарычных навук Зміцера Яцкевіча.

Пра тое, як праходзіла праца па пошуку і вяртанні рарытэта, распавёў падчас «круглага стала» Андрэй Радкоў:

— Дагэтуль ужо было некалькі ўдалых праектаў па вяртанні нашых каштоўнасцей. Рынак антыкварыяту ёсць у кожнай краіне, на жаль, у Беларусі ён вельмі маленькі. Мы страцілі шмат каштоўнасцей падчас войнаў, таму прадметы культурнай спадчыны беларусаў трэба шукаць у большасці выпадкаў за мяжой. Так, у Польшчы быў знойдзены і Статут ВКЛ, які сёння захоўваецца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы краіны. Але практыка паказвае, што беларускія рарытэты могуць быць раскіданы па ўсім свеце, іх можна знайсці ў самых далёкіх краінах, самых нечаканых мясцінах.

Ужо праведзены першапачатковы аналіз вернутага асобніка Статута 1744 года, кніга лакалізаваная (навукоўцы пацвердзілі, што статут актыўна выкарыстоўваўся менавіта на беларускіх землях). Так, Зміцер Лявонцьевіч распавёў:

— Кожны дакумент можа шмат распавесці, бо мае адметныя рысы, філіграні, штрыхі. Мы вельмі часта бачым, што на кнігах пісалі. На нас за гэта сварыліся ў школе, але надпісы на палях, падкрэсліванні радкоў сведчаць пра тое, што кніга жыла, была ў штодзённым ужытку. І маргіналіі часта дапамагаюць лакалізаваць ужытак выдання, дакумента. Мы пакуль не паспелі правесці комплексны аналіз Статута ВКЛ выдання 1744 года, але было важна перадусім вызначыць, дзе, а магчыма, і кім ён выкарыстоўваўся. Маргіналіі, якія мы пабачылі ў кнізе, тычыліся менавіта права і разбору юрыдычных спраў. Было відаць, што на гэтых старонках адлюстраваўся пошук прэцэндэнтаў, каб правільна вырашыць справу. Цікава, што ў якасці закладак у гэтым асобніку выкарыстаныя дакументы. Менавіта яны дапамаглі лакалізаваць выкарыстанне кнігі. Дакументы-закладкі распавядаюць пра тое, што тут, на беларускіх землях, у 1773 годзе праводзілася справа пані Тамашэўскай. Адметна, што закладкі былі якраз там, дзе і маргіналіі. Гэта вельмі каштоўныя рысы, што сведчаць пра актыўную працу са Статутам. Многія кнігі, якія выдаваліся ў той час, у тым ліку і Статут ВКЛ, часам проста стаялі на паліцах бібліятэк і не выкарыстоўваліся.

Даследаванне помнікаў і кніжнай, і юрыдычнай, і гістарычнай спадчыны патрабуе комплекснай адукацыі, шырокіх ведаў і багатага вопыту. Але тут ёсць складанасць: у нашай краіне фактычна няма спецыялістаў у некалькіх галінах — гісторыка-філалагічнай ці гісторыка-юрыдычнай, якія былі б здольныя правесці шматбаковае вывучэнне дакументаў. Але, па меркаванні Зміцера Яцкевіча, менавіта правядзенне канферэнцый, «круглых сталоў», здзел у якіх прымаюць навукоўцы з рознай спецыялізацыяй — гістарычнай, бібліяграфічнай, юрыдычнай, сведчыць пра тое, што мы рухаемся наперад да комплекснага вывучэння з'яў і гэта будзе мець свае станоўчыя вынікі.




*Фрагмент кніжнай выстаўкі «Ад звычаёвага рымскага права да Статутаў ВКЛ, ад Статутаў ВКЛ — да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь» з фондаў Прэзідэнцкай бібліятэкі Беларусі.*

І гэта сапраўды так. «Круглы стол» у Прэзідэнцкай бібліятэцы сабраў спецыялістаў, якія працуюць у галіне гісторыі права і вывучаюць практыку прымянення Статута ВКЛ у судовай сістэме Вялікага Княства, бібліёграфаў, якія праводзяць аналіз Статутаў менавіта як кніжных помнікаў, даследуюць паперу, параўноўваюць розныя выданні, а таксама юрыстаў, якія вывучаюць адметнасці рэалізацыі ідэй Статута ВКЛ у сучасным праве. Так, Андрэй Радаман, старшы выкладчык тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Акадэміі МУС Рэспублікі Беларусь, распавёў, што нашы продкі вельмі ўважліва ставіліся да літары закона, імкнуліся выконваць усе палажэнні, зазначаныя ў Статуце. Адметна, што Статут не разглядаўся як цвёрдая, застылая форма: нават павятовыя соймікі маглі выступаць з прапановамі аб унясенні некаторых зменаў. Заўвагі маглі сапраўды прымацца на дзяржаўным узроўні або ўносіцца толькі ў мясцовыя Канстытуцыі.

Нягледзячы на тое, што Статут ВКЛ добра вядомы навукоўцам, яго тэкст у выглядзе факсіміле, у перакладзе на беларускую і рускую мову ўжо выдаваўся ў нашай краіне, яшчэ шмат мусіць быць зроблена ў кірунку вывучэння і папулярызацыі гэтага каштоўнага помніка. Так, ён можа дапамагчы падчас працы з архіўнымі дакументамі, актавымі, судовымі кнігамі, якія паказваюць, як Статут выкарыстоўваўся ў практыцы, а таксама для вызначэння месца і каштоўнасці кожнага з дакументаў у тагачаснай судовай сістэме.

Таму вельмі важна, што арыгінал Статута ВКЛ 1744 года выдання будзе захоўвацца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы краіны. Дырэктар установы Сяргей Квачан распавёў:

— Нягледзячы на тое, што наша бібліятэка паводле свайго прызначэння мусіць абслугоўваць перадусім органы ўлады, прадстаўляць кнігі, прысвечаныя дзяржаўнаму кіраванню і юрыспрудэнцыі, установа заўсёды заставалася адкрытай і для простых жыхароў. Сёння бібліятэка — адзін з найбуйнейшых у рэспубліцы інфармацыйных цэнтраў па пытаннях эканомікі, палітыкі, дзяржаўнага кіравання. Мы з'яўляемся таксама дэпазітарыем па праве.

У бібліятэцы ўжо сабраны досыць багаты фонд кніжных юрыдычных помнікаў. З некаторымі з гэтых выданняў можна пазнаёміцца на адмысловай выстаўцы «Ад звычаёвага рымскага права да Статутаў ВКЛ, ад Статутаў ВКЛ — да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь», падрыхтаванай адмыслова да «круглага стала». Тут прадстаўленыя выданні з фондаў установы, самыя старыя з іх датуюцца 1540-мі гадамі. Многія кнігі на лацінскай мове, у той час гэта была міжнародная мова юрыспрудэнцыі. Ёсць і маленькія кнігі, яны друкаваліся ў XVII ст. вядомымі еўрапейскімі тыпаграфіямі. У экспазіцыі можна пабачыць і копіі Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588 года. На жаль, арыгіналаў гэтых кніг у бібліятэцы няма. Але ўжо ёсць арыгінал, выдадзены ў 1744 годзе, які зойме пачэснае месца ў фондах.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# «…Ногі просяцца скакаць»

**Завадатары вяселля, пазыўныя танцаў, адвечныя спадарожнікі музыкаў — цымбалы і гармонік. Яны заўсёды ў цэнтры свята. Рэй вялі і на гала-канцэрце ў Белдзяржфілармоніі з нагоды 25-годдзя міжнароднага фестывалю народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік».**

Толькі кране струны… І нібы трапляеш у акіян гармоніі. Хвалі то накотваюць, то адступаюць. Здаецца, немагчыма іх утаймаваць. Вытанчанае чарадзейства цымбалаў. Пэўна, музыкантам з Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча (кіраўнік — народны артыст Беларусі, прафесар Міхаіл Казінец) вядомы нейкі сакрэт. Зноў і зноў б'ючы па струнах, яны спачатку прылашчвалі хвалі, а потым ускалыхвалі. Музыка лілася то лагодна, то напорам. Непараўнана прагучала ў выкананні аркестра фантазія А. Крамко на тэмы беларускіх народных песень у апрацоўцы У. Мулявіна, задаўшы тон канцэртнай праграме. Хацелася стаіцца, на адным дыханні ўспрымаць чароўную рамантыку і плыць па хвалях гармоніі.

Зладжана разам з аркестрам выступіла цымбалістка з Пастаў Аляксандра Барысюк. Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь «Паазер'е» прадставіў дыятанічныя цымбалы, якімі славіцца Пастаўская зямля (гэты ўнікальны від цымбалаў захаваўся з часоў груздаўскіх музыкаў).



Скокі ад фальклорнага ансамбля «Крупіцкія музыкі».

«Як гармоніка пайшоў перабор, вясялілася і хата, і двор», — тонкі голас душы быў адчувальны ў выступленні заслужанага калектыву «Спадчына» (г. Дзяржынск). Лье гармонік-весялун — жыве беларуская песня. З першых нот скарыў гарманіст з Вілейскага раёна Барыс Харэвіч: клавішы ахвотна адгукаліся залівістай мелодыяй.



Фота Яўгена Пясецкага.

Выступае ансамбль народнай музыкі «Паазер'е».

Вылучыўся ансамбль народнай музыкі «Мінскія музыкі». «Пад гармонікаў лады забывайце пра гады», — заклікаў гарманіст «Мінскіх музыкаў», двойчы дыпламант конкурсу «Іграй, гармонік» Вячаслаў Бацечка. У калектыве ён ужо амаль 20 гадоў. Гармонік любіць за тое, што заўсёды пры сабе, а таксама за прастату: «Два рады, не трэба многа «гузікаў», а музыка вельмі цёплая, задорная. Калі чуецца гармонік у вёсцы з аднаго краю, бягуць з усіх бакоў». Любоў да музыкі ў Вячаслава Вікенцьевіча ад маці; прыкладам служылі і знакамітыя сваякі: «Мае тры дзядзькі, браты маці, — вядомыя пашкоўскія музыкі Трыбухоўскія (з вёскі Пашкоўцы каля Ляхавіч), якія ігралі ў пана Пілсудскага на дажынках. У вёсцы ў нас было 11 скрыпачоў, толькі ўявіце — і гэта ў 20-я гады…» У такіх самародкаў, як Вячаслаў Бацечка, кажуць, іграе душа.

«Як цымбалы зазвіняць, ногі просяцца скакаць!» (В. Бацечка). Гарэзлівае танцавальнае прадстаўленне падарыў заслужаны калектыў «Палешукі» (г. Іванава Брэсцкай вобласці). На біс танчыў фальклорны ансамбль «Крупіцкія музыкі»: харэаграфічная замалёўка «Боб малачу» прыйшлася гледачам вельмі даспадобы. Настрой стварылі ўдзельнікі ансамбля старадаўняй музыкі «Пастараль», капэла народных духавых інструментаў «Гуды» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Як заўсёды ярка выглядаў дзіцячы фальклорны ансамбль «Дударыкі». Цешылі юны гарманіст Антон Лукашэвіч з Мінска, Васіль Шпіганові ч з Дзятлава, Любоў Галубіцкая з Чачэрска.

Як гімн прагучала на завяршэнне ў выкананні «Мінскіх музыкаў»: «Гармонік грае, / Ля сябе народ збірае. / Хай пяе і весяліцца / Беларуская сталіца!»

Фестываль «Звіняць цымбалы і гармонік» стаў сімвалам беларускай народнай песні, падмуркам народных музычных традыцый. З году ў год ён яднае на Пастаўскай зямлі прыхільнікаў самабытнага мастацтва, адкрываючы новыя таленты.

— Гэтым канцэртам нам хацелася даць магчымасць слухачам яшчэ раз наблізіцца да крыніц і вытокаў народнага мастацтва, — адзначыў аўтар праекта і сцэнарыя канцэрта, намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Тадэуш Стружэцкі. — А таксама паказаць, наколькі багатая наша музычная спадчына.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Аркестр нашай краіны

**Гэта голас самой Беларусі. Не, цэлы хор. Нават калі граюць адны цымбалы, то ёсць адчуванне напоўненасці, шматгалосся. А тут іх шмат — і вір гукаў, глыбіня думак, спеў глыбінь стагоддзяў злучаецца з голасам сучаснасці. Усё гэта магчыма ў адным канцэрце. На гэтым тыдні музычным юбілярам быў слаўты і знакавы для Беларусі калектыў.**

Нацыянальны акадэмічны аркестр Рэспублікі Беларусь імя Іосіфа Жыновіча адзначыў сваё 85-годдзе вялікім канцэртам «Аркестр тваёй краіны». А інакш і не скажаш пра яго, бо ўвесь характар нашай зямлі і яе людзей ён увабраў: яго голас можа быць ціхі, паслухмяны і пявучы, але трэба — дык нораў пакажа настойлівасць і такую моц, што за гэтымі гукамі пойдзеш услед, паляціш за мелодыяй і паверыш тым, хто яе вядзе. Аркестр — свайго роду адбітак грамадства, у ім розныя інструменты, як людзі, злучаюцца і робяць адзіную справу. Толькі тут адразу адчуваецца яе адмысловасць, вартасць, веліч.

Гэты музычны калектыў вырас з ансамбля цымбалістаў. Усё пачыналася ў 1930-х гадах, але ўжо ў 1938 годзе калектыў стаў дзяржаўным аркестрам. Да цымбалаў дадаліся дуды, ліры, жалейкі, акарыны. Усё тое, што стварае гукавы партрэт нашай зямлі. З 1946 года аркестр узначаліў народны артыст СССР, прафесар Іосіф Жыновіч.

Але з 1974 года аркестрам кіруе народны артыст Беларусі, прафесар Міхаіл Казінец. Ён ведае ўсё, на што здольны гэты калектыў, што і прадэманстравалі на сцэне Белдзяржфілармоніі. Паказалі цымбалы як віртуозны інструмент — так і ёсць, калі на ім іграюць майстры, вось як Алена Варанцова. Сола на баяне ад Дзяніса Чорнага цудоўна спалучаецца з гучаннем аркестра. Сяргей Шаптуноў расквеціў дадатковымі фарбамі музыку гукамі ксілафона. Але ў такім канцэрце ёсць месца і для гучання фартэпіяна музыканта Алега Бабія, а таксама далікатнай флейты і выканаўцы на ёй Ігара Кіклевіча. Гучалі таксама папулярныя песні з рэпертуару ўсіх салістаў аркестра, імёны якіх добра вядомы на беларускай эстрадзе.

Але прыхільнікі Нацыянальнага акадэмічнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя Іосіфа Жыновіча ведаюць, што ёсць творы, за якімі сапраўды бачыцца краіна. Аркестр яе імкнуўся паказваць, калі прадставіў праграму «Гусляр» на музыку Ігара Лучанка і Уладзіміра Мулявіна. Ашаламляльна гучаў «Апокрыф» Ларысы Сімаковіч, пранікнёна — «Песня пра долю» Мулявіна. Пра гэтыя творы вырашылі нагадаць у святочнай праграме. Нагадалі і пра тое, што беларуская музыка — цудоўны спосаб размаўляць з людзьмі і сказаць ім тое, што, здаецца, вымавіць немагчыма. Калі высокае слова спалучаецца з цудоўнай мелодыяй і выдатным выкананнем, як аркестра, так і спевакоў Пятра Ялфімава, Яна Жанчака, Кацярыны Дзегцяровай.

Аркестр жыве, развіваецца, гучыць, набывае новыя фарбы, імкнецца быць розным пад кіраўніцтвам дырыжораў, якія з ім працуюць: апроч Міхаіла Казінца ў юбілейным канцэрце ўдзельнічалі заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Крамко і Аляксандр Высоцкі. Калектыў шукае шлях да слухача — і яго гатовыя слухаць, таму што гэта такое знаёмае, блізкае, можа, трошкі падзабытае. Але вельмі неабходнае, як радзіма. Яе музычнае ўвасабленне. Нездарма ён часта прадстаўляе музычную Беларусь на канцэртах за межамі нашай краіны.

Калі гучаць цымбалы, здаецца, нібыта званы клічуць на гук, збіраюць народ. Падключаюцца іншыя інструменты — і ёсць вялікая панарама жыцця, шматграннага, складанага, але з нейкай галоўнай мелодыяй. У гэтым гучанні сутнасць, думка, пачуццё, мужнасць,



Фота Яўгена Пясецкага.

Дырыжыруе Міхаіл Казінец.

філасофія. І нават калі трэмала цымбал раздаецца ў цішыні — гэта тое шчымліва-асабістае, калі ты ў сабе можаш акрыць цэлы Сусвет.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Хто забіў апошняга маманта?

**Супрацоўнікі Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь наведалі навучэнцаў гімназіі № 16 горада Мінска. У межах сустрэчы была арганізаваная выстаўка рэдкіх выданняў і старадрукаў са збораў бібліятэкі. Наведнікі мелі магчымасць пабачыць не толькі кнігі, але і іншыя матэрыяльныя артэфакты — напрыклад, старажытныя пісьмовыя прылады і званочак з XII стагоддзя. Як сімвал пераемнасці побач экспанаваліся цэгла-пальчатка, з якой будавалі старажытныя храмы, і цэгла са сцен мінскага Дома ўрада, дзе знаходзіцца Прэзідэнцкая бібліятэка.**



*Дэманстрацыя чатырохсотгадовага скруткa Торы.*

Дырэктар гімназіі № 16 Георгій Кушняроў у прывітальным выступе засярodзіўся на адрознасці і перавагах друкаванай кнігі ад электронных выданняў: перадусім папяровая кніга каштоўная тым, што яна захоўвае працу не толькі аўтара, але і людзей, якія яе надрукавалі. Дырэктар Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Сяргей Квачан у сваёй прамове звярнуў увагу гімназістаў на тое, што ў будучыні, пры атрыманні адукацыі ў вышэйшых навучальных установах, ім давядзецца непазбежна звяртацца ў бібліятэкі. Паразважаў ён таксама аб недахопах электронных выданняў, размешчаных у інтэрнэце, і праблемах, якія могуць быць звязаны з іх выкарыстаннем. Сяргей Квачан таксама падкрэсліў, што пры напісанні навуковых работ важна звяртацца непасрэдна ў профільныя бібліятэкі, бо нават Нацыянальная бібліятэка не дае гарантыі знаходжання ўсёй літаратуры па неабходнай тэме. Загадчык бібліятэкі гімназіі Іна Венгер займальна распавяла пра статыстыку бібліятэчнай справы ў Беларусі і свеце, а таксама агучыла вынікі анкетавання, якое праводзіла на працягу месяца сярод вучняў па пазіцыях «Самая любімая кніга з беларускай класікі» і «Кніга, якую, на вашу думку, мусіць прачытаць кожны».

Цэнтральная частка сустрэчы — яскравая і запамінальная лекцыя Валерыя Герасімава, загадчыка аддзела старадрукаў Прэзідэнцкай бібліятэкі. Напачатку ён звярнуўся да свайго радаводу, пра што раіў не забывацца і слухачам, а таксама распавёў, чаму беларусы здаўна славіцца дабрынёй і талерантнасцю — аказваецца, апошняга маманта на зямлі 10 тысяч год таму з'елі менавіта нашы продкі — пазней за ўсіх. Затым Валерый Герасімаў перайшоў да асвятлення гісторыі пісьмовасці ў Беларусі ад старажытнасці і да нашых дзён.

Свой расповед аб дакірылічнай пісьмовасці беларусаў даследчык падмацаваў, дэманструючы два пярсцёнкі з рунічнымі надпісамі, якія нашы продкі выканалі каля 1500 гадоў таму. Валерый Герасімаў выказаў цікавую гіпотэзу, што нават славянскія першаасветнікі Кірыл і Мяфодзій маглі быць продкамі дрыгавічоў, што ўдзельнічалі ў паходах на Візантыю. Экспанаты выстаўкі выступоўца браў рукамі ў пальчатках: паводле яго слоў, хоць кнігі і любяць дотык чалавечых рук, але трэба дбаць аб іх захаванасці. Да таго ж, дадаў Валеры Мікалаевіч, у свой час каралеву Барбару Радзівіл звялі ў магілу менавіта праз старонкі кнігі, насычаныя атрутай.

Прадэманстраваў даследчык таксама асобнік кнігі славутага вынаходніка шматступеньчатай ракеты Казіміра Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі» 1650 года і выданні стваральніка рускага грамадзянскага шрыфту XVIII стагоддзя, які лёг у аснову сучаснага кірылічнага алфавіта, — Ільі Капіевіча. Гаворка зайшла таксама пра выданні Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, арыгінальны асобнік якога быў у 2012 годзе набыты для Музея гісторыі Магілёва. Гімназісты змаглі пабачыць зборнік Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская», з якога, у пэўнай ступені, пачыналася адраджэнне літаратуры на беларускай мове напрыканцы XIX стагоддзя, і адзіную прыжыццёвую кнігу Максіма Багдановіча — «Вянок» 1913 года. Трапіў у зборы Прэзідэнцкай бібліятэкі нават падручнік апошняга спадкаемцы расійскага прастола царэвіча Аляксея. Ёсць таксама каля сотні кніг з аўтографамі беларускіх аўтараў з бібліятэкі Саюза пісьменнікаў. Але найбольшы ажыятаж выклікала дэманстрацыя чатырохсотгадовага скрутка Торы, для вырабу якога патрабавалася забіць 170 цялят.

Навучэнцам была прапанавана віктарына па гісторыі беларускай пісьмовасці і кнігадрукавання.

Прэзідэнцкая бібліятэка не развітваецца з гімназістамі: вучням, якія пішуць вершы альбо прозу, можна стаць аўтарамі зборніка мастацкіх твораў, які будзе выдадзены напрыканцы 2016 года і, вядома ж, зойме сваё пачэснае месца на бібліятэчных паліцах.

**Дар'я ЛАТЫШАВА,**
**фота аўтара**

# Ад сустрэчы да расстання

**Юбілейны лістапад у бібліятэках Бярэзінскага раёна прайшоў пад дэвізам «Каб любіць Беларусь — будзем чытаць Караткевіча». Штодзённа бібліятэкары ладзілі акцыю «Кожны дзень — з кнігай Караткевіча».**

За месяц у вясковых бібліятэках прачыталі звыш 300 твораў пісьменніка. Толькі наведвальнікамі Пагосцкай бібліятэкі аграгарадка ў рамках месячніка з бібліятэчнага фонду прачытана звыш 50 кніг юбіляра. Цікавасць у пагосцкіх школьнікаў выклікалі «Казачныя дзянькі» з гучнымі чытаннямі казак У. Караткевіча «Кацёл з каменьчыкамі», «Жабкі і Чарапаха» і аповесць «Сівая легенда».

Ладзіліся віктарыны па творах Уладзіміра Сямёнавіча, інфармiны «Малавядомае пра вядомага пісьменніка». Цікава даведацца, што будучы геній літаратуры чытаць навучыўся ў тры з паловай гады, пісаць (а спачатку «буб-нец») вершы — у 6 гадоў, добра маляваў, меў абсалютны слых, іграў Добчынскага ў «Рэвізоры» Гогаля. Пасля заканчэння Кіеўскага ўніверсітэта пісаў дысертацыю пра паўстанне 1863-1864 гадоў, а энцыклапедычныя веды гісторыка па-мастацку маштабна, даставерна, вобразна выкарыстаў потым у сваіх творах. Прататыпам аднаго з цэнтральных герояў рамана «Каласы пад сярпом тваім» — старога Даніла Вежы-Загорскага — паслужыў дзядуля Караткевіча па мацярынскай лініі. Сюжэт сваёй самай папулярнай аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзімір прыдумаў у 19 гадоў, седзячы на гарышчы сялянскай хаты, а потым рэалізаваў на паперы ў 27-гадовым узросце.

Для старшакласнікаў пазнавальнымі былі паведамленні «Музы Караткевіча», «Уладзімір Караткевіч: гісторыя кахання», якія праілюстравалі цікавыя супадзенні ў асабістым жыцці Караткевіча і герояў некаторых яго твораў. Так, прататыпам героя аповесці «У снягах дрэмле вясна» — Уладзіслава Берасневіча — з'яўляецца сам Караткевіч, у гэтым мастацкім творы ён напісаў гісторыю ўласнага студэнцкага кахання. Фрагменты са сваіх лістоў да каханай Караткевіч уключыў у раман «Леаніды не вярнуцца на Зямлю», амаль не змяняючы. Парадаксальна: найлепшыя тэксты Караткевіча прыпадаюць на той час, калі ён быў нешчаслівы ў каханні, бо натхнялі душэўныя пакуты. У жыцці Караткевіча было шмат трагедый: збіраўся ажаніцца, але нявеста загінула ў аўтакатастрофе літаральна перад вяселлем. Нешчаслівым было і ўніверсітэцкае каханне Караткевіча: рассталіся, каханая выйшла замуж за іншага, а ён усе гады памятаў былую сяброўку. Караткевіч узяў шлюб толькі ў 40 гадоў.

Паэтычныя трыбуны «Каханне ўзвышае душу, маладзіць сэрца» прадставілі слухачам рамантычныя вершы Караткевіча «Іней», «Я кахаю, цябе, кахаю», «Недасланы ліст: самай лепшай з зямных кабет», «Каханне і камендант» пра студэнцкае каханне. Тэатр «Жывая кніга» Бярэзінскай ЦБ узнавіў старонкі аповесці «У снягах дрэмле вясна» пра першую сустрэчу.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ**

# Гімн вернасці

Адразу дзвюм юбілейным датам — 70-годдзю Перамогі і 100-годдзю паэта-франтавіка Канстанціна Сіманава — быў прысвечаны конкурс чытальнікаў легендарнага верша «Жди меня» сярод работнікаў сельскіх бібліятэк Бярэзінскага раёна.

Дывертысментам да паэтычных чытанняў стала падрыхтаваная супрацоўнікамі аддзела маркетынгу Бярэзінскай цэнтральнай бібліятэкі «Гісторыя стварэння літаратурнага шэдэўра».

Валянціна Сярова — папулярная артыстка, гераіня карціны «Сэрцы чатырох», каханая жанчына Канстанціна Сіманава. Упершыню ён убачыў Валянціну ў спектаклі «Зыкава» і адразу закахаўся. Яна была на той час удавой легендарнага Героя Савецкага Саюза, Героя грамадзянскай вайны ў Іспаніі, лётчыка-выпрабавальніка А. Сярова. Сіманаў не прапускаў ніводнага выступлення артысткі, кожны вечар з'яўляўся ў тэатр з букетам кветак і перадаваў запіскі з просьбай аб сустрэчы. Актрыса не раз тлумачыла Канстанціну, што не можа прапанаваць яму нічога, акрамя сяброўства. Але Сіманаў быў настойлівым і яму ўдалося растапіць лёд у сэрцы каханай, яны пабраліся шлюбам. Аднак шчасце закаханых было азмрочана вайной. Сіманаў у якасці ваеннага карэспандэнта адправіўся на фронт. У час цяжкага расстання і з'явіўся на свет самы вядомы верш Канстанціна Сіманава. Друкаваць яго паэт не збіраўся, аднак блізкія і сябры, якім ён яго паказваў, тут жа пачыналі перапісваць яго ад рукі, завучвалі на памяць. Так кароценькі, але вельмі глыбокі і пранікнёны твор зажыў сваім жыццём. Радкі былі такімі блізкімі для кожнага чалавека ў той няпросты час і сталі па-сапраўднаму ўсенароднымі пасля надрукавання ў газеце «Праўда» ў 1941 г. Верш, пад якім значылася сціплае прысвячэнне «ВС», дасылалі родныя на фронт або дамоў з фронту. Так жыла надзея, што ў іх хтосьці верыць, чакае.

Удзельнікі конкурсу прадставілі журы ўласную інтанацыйна-вобразную інтэрпрэтацыю тэксту верша, падмацоўваючы дэкламацыю шырокім выкарыстаннем суправаджальных рэквізітаў. Арганічна ўспрымаліся монавыступленні і дуэты дэкламатараў. Таксама радкі легендарнага верша Канстанціна Сіманава гучалі ў лістападзе ў «Паэтычным аўтобусе» гарадскога маршрута № 1 у рамках прома-акцыі «Рыфмы Перамогі», зладжанай супрацоўнікамі ЦБ.

**Ірына СЯМАШКА**

# Сёстры-кніжніцы

**Адбыўся прафесійны візіт у Гомельскую вобласць удзельнікаў XI Усерасійскіх бібліятэчных чытанняў «Паўлянкоўскія бібліятэкі ў XXI стагоддзі: традыцыі, пошук навацый», якія праходзілі на базе Бранскай абласной навуковай універсальнай бібліятэкі імя Ф. Цютчава. У Беларусь прыехалі бібліятэкары з Масквы, Рэспублікі Комі, Пермскага краю, Бранскай, Кіраўскай, Арлоўскай, Свярдлоўскай і Чалябінскай абласцей. Госці пазнаёміліся з работай галоўнай бібліятэкі Гомельскай вобласці, удзельнічалі ў «круглым стале» «Публічная бібліятэка ў сучасным фармаце».**



*Марына Рафеева, дырэктар Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі, прымае падзяку ад расійскіх гасцей.*

Наведалі таксама Урыцкую вясковую бібліятэку, якой загадвае Валянціна Самойленка, дзе ў межах краязнаўчага літаратурна-мастацкага праекта Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі «Жывая памяць маёй сям'і» адбылося ўрачыстае адкрыццё экспазіцыі, прысвечанай братам Крычаўцовым, ажыццёўленае пры фінансавай падтрымцы ААТ «Газпром трансгаз Беларусь». Крычаўцовы — тры браты-музыкі Канстанцін, Мінай і Елісей — сямейны танкавы экіпаж. У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны ў адным з баёў знішчылі 4 танкі і 2 бронетранспарцёры праціўніка. 26 чэрвеня 1941 года адными з першых савецкіх танкістаў-асаў здзейснілі танкавы таран.

Аўтары кнігі «Жывая памяць маёй сям'і» — работнікі абласной бібліятэкі Юрый Максіменка, Алег Ананьеў і Юры Рачынскі, яны ж удзельнікі народнага тэатра «Гракі», які працуе пры бібліятэцы, — паказалі інсцэніраваны ўрывак са сваёй кнігі пра подзвіг братоў Крычаўцовых. Гэта знайшло жывы водгук у сэрцах расійскіх гасцей, якія не хавалі слёз. Бібліятэкар з Чалябінскай вобласці распавяла, што яе маці ўдзельнічала ў вызваленні Гомеля і памятала яго ў руінах. Тым большае захапленне і павагу выклікалі ўбачаныя сучасныя Гомель і вобласць.

Наталля Яраслаўцава, загадчыца навукова-метадычнага аддзела Кіраўскай абласной навуковай бібліятэкі імя А. І. Герцэна, прэзідэнт Клуба ЮНЕСКА «Садружнасць Паўлянкоўскіх бібліятэк», адзначыла: «На тэрыторыі Беларусі ў свой час былі адкрыты 13 паўлянкоўскіх вясковых бібліятэк. Ведаем мы пакуль пра адну — нашу «сястру» ў Брэсцкай вобласці. Вельмі хацелася б наладзіць стасункі з астатнімі».

Супольнасць Паўлянкоўскіх бібліятэк атрымала сваё імя ад Хларэнта Фёдаравіча Паўлянкова, кнігавыдаўца, публіцыста, перакладчыка. Ён завяшчаў сваю спадчыну на прыладу 2000 бясплатных бібліятэк і чытальняў у вёсках Расійскай імперыі, у тым ліку на тэрыторыі Беларусі і Украіны. У Бранскай вобласці былі адкрыты 16 бібліятэк, зараз працуюць 10 з іх. У 2013 годзе ў Бранску створаны філіял Расійскай міжрэгіянальнай грамадскай арганізацыі Клуб ЮНЕСКА «Садружнасць Паўлянкоўскіх бібліятэк».

**Алена ПАРФІАНОВІЧ, фота аўтара**

*Фоташтрых*

# Вершы для сабакі



**Напярэдадні Новага года ў Гомелі на некалькі гадзін адкрыецца студыя чытання вершаў сабаку. Удзячным слухачом стане лабрадор Кімі, якога запросяць 25 снежня ў Гомельскую абласную ўніверсальную бібліятэку імя Леніна, каб пазнаёміцца з навагодне-калядналітаратурай дзіцячай літаратурай.**

Загадчык аддзела літаратуры на замежных мовах Таццяна Рабікава распавяла, што ўпершыню такі эксперымент яны ўжо праводзілі ў верасні падчас «Бібліяночы»: пастаянны чытач прывёў свайго сябра — лабрадора Кімі. Дзеці чыталі сабаку кнігі на англійскай мове, якія ён уважліва і цярпліва слухаў, што вельмі спадабалася малым. Таму ўдалае мерапрыемства вырашылі паўтарыць.

Па меркаванні спецыялістаў, чытанне вершаў сабаку зусім не забаўляльны занятак, а разбурэнне перашкод на шляху да кнігі. Зацікавіць друкаваным словам сённяшняе маладое пакаленне не так проста. Замежны вопыт паказвае, што ў гэтым выдатна дапамагаюць жывёлы, якія з задавальненнем слухаюць, не робяць заўваг і нікуды не спяшаюцца, у адрозненні ад бацькоў.

# «Збіраю я Радзіму па радках»

**Свята пад такой назвай згуртавала жыхароў Маскоўскага раёна сталіцы, а таксама моладзь — курсантаў БНТУ ваенна-тэхнічнай кафедры, навучэнцаў і выкладчыкаў чыгуначнага каледжа і сярэдняй школы № 25 у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22.**

У межах мерапрыемства адбылася прэзентацыя кнігі паэзіі лаўрэата прэстыжных літаратурных прэмій, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза расійскіх пісьменнікаў Юрыя Фатнева «Сівыя нябёсы».

Удзел у вечарыне ўзялі знакамітыя беларускія літаратары і сябры Юрыя Фатнева — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Бэларусь, паэт Міхась Башлакоў, пісьменнік, паэт, журналіст, аўтар шматлікіх кніг, прысвечаных творчасці і памяці Ясеніна, Пятро Радзечка і літаратурны крытык Людміла Вараб'ёва.

Зборнік «Сівыя нябёсы» ўключае лепшыя паэтычныя творы аўтара, напісаныя на працягу жыцця, а таксама вершы апошніх гадоў. Па-ранейшаму тут валадарыць прырода: роднае Палессе, навечна апетае паэтам, што назаўсёды ўвайшло ў яго лёс і назаўжды застанецца ў яго вершах, як і рэкі: Іпуць, Сож, Бесядзь, Убарць, Тураўскі паром, Старыя Дзятлавічы, дзе прайшло дзяцінства пісьменніка.

Вялікую зацікаўленасць у слухачоў мела выступленне сябра Юрыя Фатнева, пісьменніка, члена Міжнароднага ясенінскага таварыства «Радаўніца» Пятра Радзечкі, які распавёў пра сваё першае знаёмства з Юрыем Фатневым і іх супрацоўніцтва ў літаратуры. Кніга Пятра Радзечкі «Рэабілітаваны Ясенін», па меркаванні Юрыя Фатнева, адкрыццё для сапраўдных прыхільнікаў творчасці вялікага паэта.

**Наталля ЯРАШЭВІЧ**

*Млын навін*

# Нясумны Станькаўскі вечарок

Пад такой назвай у сельскай бібліятэцы вёскі Станькава адбылася літаратурная вечарына, на якой пісьменніца, журналістка Алена Стэльмах сустрэлася з землякамі, прыхільнікамі яе творчасці.

Госцю вечара ведаюць не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі: Алена Стэльмах — член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Расіі, член Саюза журналістаў Беларусі. Пісьменніца распавяла прысутным пра свой творчы шлях. За 7 год працы на пасадзе галоўнага рэдактара «Белорусской лесной газеты» Алена Стэльмах падрыхтавала і выдала шэраг кніг па лясной гаспадарцы Беларусі. У кнізе «Лясныя дарогі подзвігу» яна стварыла зборны вобраз беларускага лесу — патрыёта, які ў суровую гадзіну папоўніў шэрагі абаронцаў Айчыны. Не забывае пісьменніца і маленькіх чытачоў. Сёлета ў Выдавецкім доме «Звязда» выйшла цікавая кніжка для дзяцей «Як мядзведзь пчаляром стаў», дзе знайшла сваё месца і казка Алены Стэльмах «Дуб і крумкач».

Алена Анатольеўна піша і вершы. Некалькі з іх яна прачытала на вечарыне. Свае новыя творы прачыталі таксама паэты, члены дзяржынскага літаратурнага аб'яднання «Выток» Уладзімір Шымановіч і Васіль Семянюк. Добрыя словы ў адрас Алены Стэльмах прагучалі ад Таццяны Рахманько, загадчыцы аддзела рэспубліканскага архіва кінафотафонадакументаў. Не абышлося і без музычных нумароў: госці былі ў захапленні ад песень Тамары Кашчэвай і Аляксандра Радчанкі.

**Лявон ЦЕЛЕШ**

***

Варнянская сельская бібліятэка — адна са старэйшых кніжніц Астравецкага раёна, дастойная пераемніца культурных традыцый. Штогод бібліятэкай карыстаюцца 750 чытачоў, з іх 300 дзяцей. Для сельскай бібліятэкі — гэта вельмі пазітыўная статыстыка.

Варняны — старажытная вёска Астравецкага раёна, вядзе пачатак з 1391 года. З XVI стагоддзя паселішча належала старому шляхетнаму роду Абрамовічаў, з якога выйшлі многія дзяржаўныя і ваенныя дзеячы, удзельнікі грамадска-палітычнага руху ў Беларусі. Копіі фотаздымкаў і літаграфій вёскі 1-й паловы XIX — пачатку XX стст. можна пабачыць у раздзеле бібліятэчнай выстаўкі «Варняны старажытныя і сучасныя».

Нязменна выклікае ў чытачоў цікавасць летапіс вёскі Варнян, у якім змешчаны звесткі ў раздзелах: «Адкуль у вёсцы імя», «Час утварэння вёскі», «Успаміны старажылаў», «У полымі Вялікай Айчыннай вайны», «Новая вёска — новыя людзі», «З лексікі роднай вёскі». Прыцягвае ўвагу наведвальнікаў фотавыстаўка «Помні іх імёны — яны прайшлі дарогамі вайны».

Шмат цікавых сустрэч ладзіцца ў Варнянскай сельскай бібліятэцы: з пісьменнікам В. Рагойшам, прафесарам А. Мальдзісам, фотамастаком А. Юркойцам, з галоўным рэдактарам газеты «Астравецкая праўда» Н. Рыбік.

З 2007 г. пры бібліятэцы працуе гасцёўня «Варнянскія сустрэчы», якая зарэкамендавала сябе як месца, дзе чытачы маюць магчымасць не толькі правесці вольны час, але і падзяліцца з маладымі чытачамі сваім жыццёвым досведам.

**Святлана ЯЛОЎСКАЯ**

***

У гарадской бібліятэцы-філіяле № 1 Дзяржаўнай установы «Слуцкая раённая цэнтральная бібліятэка» адбылася літаратурная сустрэча «Гэта светлае шчасце — кахаць і чакаць» з вядомай беларускай паэтэсай, празаікам, тэатральным крытыкам, журналісткай Таццянай Мушынскай, якая піша творы для дзяцей і дарослых.

Пазнаёміцца, пагутарыць з майстрам слова ў бібліятэку прыйшлі юныя чытачы сярэдняй школы № 12, члены літаратурнага клуба «Сустрэча», навучэнцы прафесійна-тэхнічнага каледжа перапрацоўчай прамысловасці.

Супрацоўнікі бібліятэкі пазнаёмілі прысутных з біяграфіяй Таццяны Мушынскай. Пісьменніца расказала пра сваю творчасць і некаторыя выпадкі жыцця, пра сённяшнія задумы і крыніцы натхнення, змястоўна і цікава адказала на шматлікія пытанні.

На працягу мерапрыемстваў гучалі творы беларускіх кампазітараў, якія выконвалі на цымбалах і скрыпцы настаўнікі школ мастацтваў Таццяна Даніловіч і Кацярына Сарагавец.

**Галіна САСІНОВІЧ**

# Спазнаць Сусвет

**«MODUS VIVENDI» — гэта не што іншае, як самаперсаніфікацыя. Якое жыццё ў мастака, ці ёсць у ім пэўныя правілы, традыцыі і якая яна, цэласная сістэма мастацкага светапогляду?**

Адказы на гэтыя пытанні дае экспазіцыя графіка і жывапісца Уладзіміра Правідохіна, якая працуе ў пераходнай галерэі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Яна дэманструе адначасова жывапісныя работы, акварэлі, малюнкі алоўкам і тушшу. Выкананыя за перыяд больш як 30 гадоў, яны дазваляюць прасачыць галоўныя вобразныя матывы і творчую эвалюцыю Уладзіміра Правідохіна.

У гэтым фармальна-пластычным і змястоўным поліфанізме адразу хочацца адзначыць высокую працаёмкую культуру творцы, яго асаблівае стаўленне да матэрыялу. Вядомая філанаўская «зробленасць», прафесійная патрабавальнасць, грунтоўнасць: у гэтым плане паказальнай з'яўляецца карціна, выкананая ў тэхніцы акварэлі пад назвай "Вечнае вяртанне" (2000–2001). Даволі вялікая паверхня графічнага аркуша драбніцца на маленькія колеравыя часціцы, якія нібы пераламаліся. Дбайнасць адпрацоўкі абстрагаваных форм, ювелірнасць почырку майстра ўражвае.

Экспазіцыя *«MODUS VIVENDI»* — гэта не проста дэманстрацыя тэхнічнага майстэрства і нават не прыгажосць чыстай геаметрыі. Формы, колеры, лініі, дакладна вывераныя мудрагелістыя структуры малюнка аўтара нясуць у сабе інфармацыйнае паведамленне, паказваючы кругаварот матэрыі. У сваіх працах мастак ставіць звышзадачу — убачыць і ўвасобіць метафізічныя асновы Сусвету.

Мастацтва Уладзіміра Правідохіна — перш за ўсё інтэлектуальнае. Космас, універсум, перакрыжаванні сусветаў, нябачная рэальнасць — менавіта такі паток асацыяцый усплывае пры паглыбленні ў мастацкі свет аўтара. Такому «касмізму» мыслення ў поўнай меры адпавядае серыя «Метамарфозы».

Значная частка твораў, прадстаўленых на выстаўцы, — «пераклад» на мову выяўленчага мастацтва твораў Фёдара Цютчава. Інтэрпрэтацыя літаратурных тэкстаў займае асаблівае месца ў творчасці Уладзіміра Правідохіна, і ў гэтым жанры ён зарэкамендаваў сябе не як ілюстратар, а як суаўтар. Мантаж малюнка са словам нараджае новыя сэнсавыя сувязі, тэкст узнікае як бы паралельна з выявай, дапаўняе і пацвярджае яе.



*«Нацюрморт». 2005 г.*

На выстаўцы ёсць і жывапісныя палотны, якія ўмоўна можна аднесці да разраду абстрактнага мастацтва. Спектр выяўленчых форм сапраўды абстрагаваны, але майстар з дапамогай іх імкнецца надаць выразнасць і арганізаванасць рэаліям. Яго знакава-пластычны стыль узбагачаецца напружанасцю колеравых адносін, актыўнай рытмікай. І тут зноў відавочна імкненне да спазнання сусветнай прасторы.

Сёння ў імклівым свеце розных тэндэнцый, напрамкаў і плыняў Уладзімір Правідохін застаецца верным не толькі сабе, але і правільнасці абранага мастацкага шляху, бачыць у ім духоўны стрыжань свайго жыцця.

**Кацярына ІЗАФАТАВА**

# Злучэнне супрацьлегласцей



*Наталля Іванова «Хутка Новы год». 2013 г.*

Казачная атмасфера, мяккасць форм, гармонія і святло, што льецца знутры карцін, спалучэнне жаночай мяккасці і мужчынскай раўнавагі — усё гэта аб'ядноўвае творчасць мастакоў Наталлі і Рыгора Іванових. Яны жывуць і працуюць пад адным дахам, называючы гэта сямейнай творчасцю, але стыль і тэхніка, адчуванне жыцця і філасофія жывапісу кожнага аўтара індывідуальныя. У гэтым можна пераканацца на выстаўцы жывапісу «Гармонія кантрастаў» у арт-гасцёўні «Высокае месца».

Наталля піша карціны пад знакам прымітывізму, наўмысна спрашчаючы вобразы, — не важна, адлюстроўвае яна фігуры людзей, дрэвы альбо жывёл. Мастачка імкнецца да казачнасці. Яе вобразы могуць здацца дзіцячымі, але на самай справе ў іх хаваецца глыбокі сімвалізм. Усе фантастычныя персанажы свету, ці гэта драконы, феі альбо прынцэсы, з'яўляюцца архетыпамі, прадуктам калектыўнай творчасці цэлых народаў, вечнымі вобразамі, якія жывуць у кожным чалавеку і, так ці інакш, уздзейнічаюць на яго свядомасць. Наталля абуджае іх, «правакуючы» гледача на шчырую праяву пазітыўных эмоцый, душэўнай чысціні. Як бы ні было дрэнна, немагчыма не ўсміхнуцца, зірнуўшы на яе дзяўчынку, што абняла вялікую блакітную птушку, маленькіх лялек у далікатных сукенках, мілую даму з сабачкам і парасонам, кусты руж ці дзяцей у гарбузовых сукенках.

«Усё жыццё складаецца з кантрастаў: цёплае змяняецца халодным, хуткае ператвараецца ў павольнае. Злучае супрацьлегласці каханне, ствараючы гармонію», — упэўнены Рыгор Іваноў. Майстар творыць у іншым кірунку, называючы яго «свецізмам». Усё жывое ў Сусвеце, на яго думку, складаецца з вясёлкавай квінтэсенцыі, а людзі напоўнены мільёнамі клетачак, якія свецяцца і пераліваюцца. Каб яны жылі, ім патрэбна не толькі фізічнае, але і духоўнае святло — яно і хаваецца на карцінах. Сонца — цэнтральны элемент яго палотен, ад якога будуецца ўся кампазіцыя. Ёсць у яго нават Мадонна святла, а кожная фігура акружаная светлавым воблакам.

«Высокае месца» стала яшчэ адным філіялам Музея гісторыі горада Мінска, размясціўшыся на двух паверхах комплексу з выставачных пакояў і калідораў на вуліцы Герцэна 2а. Назвай арт-гасцёўня абавязана старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгору Сітніцы. Паводле яго слоў, дарэчы, выстаўка «Гармонія кантрастаў» — тое, што можна назваць абсалютным пазітывам, якога так не хапае ў нашым складаным свеце, святам для тых, у каго ёсць праблемы з настроем.

Дырэктар Музея гісторыі горада Мінска Галіна Ладзісава ўпэўненая, што экспазіцыя карцін Івановых вельмі дарэчы адкрылася менавіта ў снежні, калі ўсе чакаюць навагодніх цудаў, рыхтуюць святочныя сюрпрызы і мараць пра самыя запаветныя жаданні.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Высокае напружанне, альбо Выбух святла

Чалавек паказаны на фоне некранутай тэхналогіямі прыроды — каля масіўных дрэў з неабсяжнымі кронамі, берагоў маляўнічай ракі, на вяршыні крыгаходу ці ў барацьбе з навальніцай, падчас узыходжання на гару альбо схаваўшыся ў тумане. Мацвей Басаў кажа ў сваіх карцінах пра дзяцінства і мацярынства, падымае біблейскую тэму, малюючы анёлаў і апосталаў у зарыве сонечнага святла.

На выстаўцы жывапісу Мацвея Басава ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь больш за палову карцін экспануюцца ў Мінску ўпершыню. Вернісаж — своеасаблівая рэканструкцыя творчага станаўлення аўтара, дэманструе каля 70 твораў перыяду 1960 — 1990-х гадоў. Няцяжка прасачыць, як мастак мяняў свой стыль, пераходзіў ад больш мяккай, нейтральнай, далікатнай палітры да яркіх, сакавітых, буйных мазкоў, тэмпераментнай авангарднай пластыкі, аб'ёмнай фактуры.

Вялікае значэнне ён надае колерам. Здаецца, жоўты сімвалізуе надзею, чырвоны — перамены, зялёны — першародную прыгажосць навакольнага свету. Варта зірнуць, напрыклад, на карціну "Трывога", дзе няма яўнага сюжэта, фігура паказана статычна, але ўсе эмоцыі перадаюць адценні. Балотны колер у спалучэнні з прыглушана блакітным і фіялетавым ствараюць адчуванне нявызначанасці і пакутлівых перажыванняў. Эмацыянальным напал палотнам надае кантраст — застылых фігур і магутнай, быццам выбух, каляровай палітры, якая, падобна вулкану, урываецца ў свядомасць.

Сам мастак кажа, што піша інтуітыўна, арыентуецца на пачуцці, пераплятаючы ўяўнае і сапраўднае, апяраджваючы падзеі і эмоцыі. «Жывапіс мігацення» — так ён называе свой стыль. А крытыкі часта адносяць яго да пакалення неаэкспрэсіяністаў. Дакладна, што ключавым на карцінах з'яўляецца святло, якое азначае веру, мудрасць продкаў, сілу духу і надзею.

Палотны Мацвея Басава вядомыя па ўсім свеце — яго выстаўкі праходзілі ў галерэях Еўропы, Амерыкі, Расіі, нязменна знаходзячы свайго гледача. Цікава, што аўтар — падаўжальнік сямейных творчых традыцый, сын жывапісца Ізраіля Басава. Нядзіўна, што пад наглядам бацькі хлопчык маляваў ужо з пяці гадоў. Ён не перастае эксперыментаваць сёння, пастаянна імкнецца да новага.



*Мацвей Басаў «Дзяцінства». 1990 г.*

**Марыя ВОЙЦІК**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 17.12.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1907.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1502 г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12